ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 64 (2525)
ПЯТНІЦА
18
снежня 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

# ЗБЫЛАСЯ МАРА ІЛЬІЧА



**Будучы гісторык, вывучаючы дакументы першых гадоў Савецкай улады на Беларусі, абавязкова натыкнецца на словы «лямпачка Ільіча». Ці зразумее ён адразу, што гэта не тэхнічны тэрмін! Што гэтыя словы, разам з такімі, як «гурток лікбеза», «першы трактар», — былі сінонімамі новага жыцця, пачатак якому паклаў Вялікі Кастрычнік.**

**Ды і нам, з вышыні сённяшняга дня, усё гэта здаецца ўжо далёкай гісторыяй. З краю ў край на нашых неабсяжных прасторах выраслі волаты энергетыкі. Не ў імглістых прыцемках, уззянні тысяч электрычных сонцаў паўстае Савецкая зямля! І, адзначаючы зараз знамянальную дату—50-годдзе ленінскага плана ГОЭЛРО, мы з гонарам думаем пра тое, што збылася мара Ільіча аб суцэльнай электрыфікацыі краіны.**

**Гэтыя людзі на здымку нашага фотакарэспандэнта Ул. Крука трымаюць пальцы на электрычным пульсе рэспублікі.**

Рэпартаж з каманднага пункта Беларускай энергасістэмы чытайце на 12-й старонцы.

**Заўчора, 16 снежня, адбыўся чарговы пленум праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. На парадку дня пленума былі два пытанні: 1. Аб скліканні чарговага, VI з'езда пісьменнікаў Беларусі; 2. Сённяшні стан беларускай драматургіі і яе задачы.**

**З паведамленнем па першым пункце парадку дня выступіў першы сакратар праўлення СП БССР Максім Танк. Пленум аднагалосна прыняў пастанову аб скліканні VI з'езда пісьменнікаў Савецкай Беларусі ў другой палове красавіка 1971 года.**

**Пасля гэтага пленум перайшоў да абмеркавання другога пункта парадку дня. З дакладам «Беларуская драматургія, дзень сённяшні» выступіў другі сакратар праўлення СП БССР Іван Шамякін [яго даклад з некаторымі скарачэннямі друкуецца ў сённяшнім нумары штотыднёвіка].**

**У спрэчках, якія разгарнуліся па дакладзе, прынялі ўдзел намеснік старшыні праўлення Беларускага тэатральнага аб'яднання Ул. Стэльмах, мастацтвазнаўца А. Сабалеўскі, А. Вялюгін, А. Слесарэнка, намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні М. Пятніцкі, П. Пестрак, кінарэжысёр І. Дабралюбаў, міністр культуры БССР М. Мінковіч, П. Васілеўскі, дырэктар кінастудыі «Беларусьфільм» У. Іваноўскі, госць з Масквы, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР А. Салынскі.**

**Па абмеркаваным пытанні пленум прыняў разгорнутую пастанову.**

**У рабоце пленума праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі прынялі ўдзел загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. Марцэлеў, старшыня праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР, народны артыст СССР У. Корш-Саблін, старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні В. Палескі, намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку А. Барушка.**

Справаздача з пленума будзе апублікавана ў наступным нумары штотыднёвіка.

# БЕЛАРУСКАЯ ДРАМАТУРГІЯ, ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ

## ДАКЛАД Івана ШАМЯКІНА

НАБЛІЖАЕЦЦА новая гістарычная падзея ў жыцці партыі, народа, краіны — XXIV з'езд КПСС. З'езд падвядзе вынікі камуністычнага будаўніцтва за апошнія гады, вынікі выканання пяцігадовага плана і, кіруючыся ленінскай тэорыяй, вызначыць новыя задачы ва ўсіх сферах эканомікі, навукі і культуры.

З кожным з'ездам партыі мы як бы ўзнімаемся яшчэ на адну, вышэйшую, ступень не толькі ў эканамічным развіцці — яно расце паслядоўна і няўхільна, — але і ў ідэйным асэнсаванні нашых здабыткаў, поспехаў і недахопаў, ва ўсёй ідэалагічнай рабоце ўнутры краіны і ідэалагічнай барацьбе на міжнароднай арэне. Партыя і народ ідуць насустрач XXIV з'езду з выдатнымі дасягненнямі і яшчэ больш светлымі перспектывамі.

З вышыні гэтых дасягненняў, у святле гэтых перспектыў мы, пісьменнікі, мастакі, павінны азіраць поле ўласнай дзейнасці і вызначыць задачы, якія належыць вырашыць.

Сённяшняя наша задача — агледзець частку літаратуры, надзвычай важную па значэнню, тую, ад якой залежыць развіццё некалькіх відаў мастацтва і, між іншым, тую, пра адставанне якой больш за ўсё ў апошні час гавораць, — драматычную літаратуру для тэатра, кіно, тэлебачання.

## I.

На Усесаюзным пленуме па пытаннях драматургіі дакладчык А. Салынскі заўважыў з іроніяй, што, маўляў, аб адставанні драматычнага жанру гаварылі і тады, калі тварылі Эсхіл і Сафокл, і ў часы Лопэ дэ Вэга і Шэкспіра, і тады, калі на рускай сцэне з'явіліся Пушкін і Гоголь, Астроўскі і Чэхаў. Разам з тым міністр культуры СССР К. Фурцава адзначыла, што п'ес пішацца мноства, штогод па некалькі тысяч.

Я таксама даўно задумваўся над гэтым. Узяў спіс нашай арганізацыі і выпісаў імёны людзей, якія толькі на працягу апошніх трох гадоў пісалі для тэатра, кіно, тэлебачання. Дазволю сабе назваць гэтых пісьменнікаў: Адамовіч, Аляксееў, Агняцвет, Асіпенка, Бачыла, Бураўкін, Бур'ян, Быкаў, Васілеўскі Пятро, Вялюгін, Вярцінскі, Вольскі Віталій, Вольскі Артур, Герчык, Гарулёў, Грахоўскі, Губарэвіч, Гутковіч, Дзялендзік, Зуб, Карпюк, Куляшоў, Караткевіч, Лакербая, Лужанін, Макаёнак, Макаль, Махнач, Маўзон, Мехаў, Машкоў, Новікаў, Панамароў, Рамановіч, Харкоў, Чыгрынаў і, нарэшце, ваш сённяшні дакладчык.

Такім чынам, відаць, трэба згадзіцца, што справа не ў колькасным адставанні драматургіі. Хутчэй за ўсё гэта ідэйна-тэматычнае, мастацка-тэматычнае адставанне. Рэдка, вельмі рэдка сустракаецца глядач у тэатры, бачыць на экранах кіно і тэлебачання свайго сучасніка, уласна кажучы, самога сябе — савецкага чалавека 60—70 гадоў.

Чаму гэта адбываецца? У чым прычына?

Дзякуючы мудрай знешняй палітыцы Камуністычнай партыі, Савецкага ўрада мы чвэрць стагоддзя карыстаемся найвялікшым дарам і шчасцем — мірам. Паступовае мірнае развіццё грамадства, у якім знішчаны антаганістычныя класы, рэзка змяніла характар усіх сацыяльных чалавечых канфліктаў. Канфлікты не ляжаць на паверхні, не вырашаюцца выбуховай сілай страсцей.

Дзе ж яны, асноўныя драматычныя канфлікты — тыя, без якіх любы твор робіцца падобным на рахітыка? Безумоўна, у сферы вытворчасці матэрыяльных даброт — там, дзе робяць эпахальныя навуковыя адкрыцці, дзе плавяць сталь, пампуюць нафту, будуюць машыны і росцяць хлеб. І, нарэшце, усюды, дзе ідзе вострая барацьба дзвюх ідэалогій — буржуазнай і камуністычнай.

У гэтай сувязі нельга пагадзіцца з думкай, якая культывавалася апошнія гады, думкай аб тым, нібыта вытворчы канфлікт — гэта не прадмет даследавання мастака. Яна нанесла немалую шкоду. Думка гэтая адыграла сваю станоўчую ролю ў асуджэнні твораў бесканфліктных, дзе станкі, дэталі, гектары і гатункі пшаніцы і бульбы засланялі людзей, характары. Аднак пасля тэзіс гэты давялі да абсурду, да супрацьлегласці. І гэта адцягвала ўвагу пісьменнікаў ад галоўнай сферы дзейнасці чалавека — вытворчай, ад яго вытворчых адносін. Некаторыя крытыкі дагаварваліся да таго, што, маўляў, толькі быт чалавека ўяўляе каштоўнасць для мастака. І пайшла паласа бытавізму і ў прозе, і ў драматургіі, а з ёй—дробязнасць канфліктаў і характараў.

Адводзіла крытыка пісьменнікаў ад галоўных канфліктаў і залішнім шумам вакол пошукаў новай формы. Часам паэме з разбураным сюжэтам, раману ў эцюдах і без характараў, п'есе, наватарства якой заключалася толькі ў тым, што яна напісана ў адной дзеі, прысвячаліся ледзь не манаграфіі, а пісьменнікі, якія аддавалі ўвесь свой творчы час, усю энергію пошукам новага жыццёвага матэрыялу, новых жыццёвых сітуацый, адкрыццю новых характараў, зусім амаль не заўважаліся крытыкай. Забывалася ленінскае палажэнне аб прымаце зместу над формай і адпаведнасці формы зместу.

Проза яшчэ можа жыць мінулым, гісторыяй. Тэатр, кіно, тэлебачанне на гістарычных творах, нават выдатных, доўга не працягнуць. Сучаснасць — душа драматургіі, без яе яна змарнее. Падмосткі ж нашых тэатраў у апошнія гады пачало запаланяць драбнатэм'е. Сям'я, любоў, выхаванне дзяцей — тэмы вечныя і заўсёды актуальныя, але калі яны вырашаюцца з высокіх грамадзянскіх пазіцый, у святле камуністычнай маралі, а не смакуюцца па-абывацельску, як гэта мела месца ў некаторых так званых «касавых п'есах». Праўда, да гонару нашай арганізацыі беларускія драматургі да такога «касавага поспеху» рэдка апускаліся.

Аднак не сказаць пра гэтую «касавую прынаду» я не мог, бо на яе лёгка клююць тэатры і рэжысёры, і творы гэтыя, займаючы месца ў рэпертуарах, часта адціскаюць п'есы, якія, можа быць, па форме яшчэ і не давадзены, але па задуме, тэме, матэрыяле, вобразах, па ідэі — «функцыянальна мэтазгодныя».

На апошнія тры гады нашага жыцця мелі свой жыццятворны ўплыў знамянальныя падзеі — 50-годдзе Кастрычніцкай рэвалюцыі, 50-годдзе БССР і 100-годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна. Падрыхтоўка да гэтых дат, правядзенне іх як усенародных свят павышалі працоўны энтузіязм рабочых, сялян, вучоных, мастакоў. Правамерна, што кожнаму хацелася зрабіць больш і лепш.

Безумоўна, задача заключалася не ў тым, каб стварыць нейкія асаблівыя юбілейныя творы. Партыя, народ ставілі перад намі, мастакамі, шырэйшую задачу: паўней адлюстраваць і ленінскі геній, і мудрасць партыі, і гераізм народа — ратны і працоўны; пры гэтым асабліва падкрэслівалася неабходнасць стварэння вобразаў нашых сучаснікаў.

Натуральнымі былі спадзяванні, што за гэтыя гады папоўніцца і беларуская Лeнініяна, якая дагэтуль у нас бедная.

У гэтым плане нямала зроблена ў выяўленчым мастацтве, у музыцы, у паэзіі, што-нішто з'явілася ў прозе. Але, на вялікі жаль, вельмі мала ў драматургіі і кіно. Пра тэлебачанне гаварыць цяжка: сваю тэлевізійную Ленініяну беларускае тэлебачанне, канечне, не стварыла, але шырока паказала ўсё тое, што створана раней ва ўсім савецкім мастацтве.

У драматургіі для тэатра, па-сутнасці, з'явілася толькі адна п'еса—гісторыка-рэвалюцыйная драма старэйшага нашага драматурга Кастуся Губарэвіча «Брэсцкі мір».

Мне, на жаль, не ўдалося паглядзець спектакль у Брэсцкім тэатры. Але той варыянт п'есы, які апублікаваны ў «Полымі», скажу шчыра, шмат у чым не задавальняе. Ад драматурга з такім стажам, для якога гэтая тэма не новая (у «Галоўнай стаўцы» было нямала ўдач), я чакаў большага паглыблення ў матэрыял, у характары. Губарэвіч пайшоў па дарозе, якая ўжо пратоптана, у тым ліку і ім самім, а таму лягчэйшая, і напэўна забыўся, як забываюць і многія з нас, што той узровень распрацоўкі гісторыка-рэвалюцыйнай тэмы, які мог задаволіць чытача, гледача 30—40-х гадоў, ні ў якім разе не задавальняе гледача 70-х гадоў.

Да юбілейных дат Міністэрства культуры праводзіла конкурсы на лепшую п'есу. Відаць, не варта падрабязна спыняцца на конкурсе, які быў праведзены да 50-годдзя Савецкай улады, лепшыя з гэтых п'ес ужо пастаўлены, і пра спектаклі па іх нямала пісалася ў друку, гаварылася на розных нарадах. Менш было сказана пра лаўрэатаў конкурсу, які быў праведзены ў гонар 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна. Хачу выказаць агульную ацэнку конкурсам. Яны, безумоўна, акупілі затраты, бо далі некалькі цікавых твораў. Але разам з тым нельга не сказаць, што тэматычна конкурсы не апраўдалі надзей арганізатараў, зноў жа па той прычыне, пра якую ўжо я сказаў, — сучаснасць у конкурсных рэчах не заняла належнага месца, і вобраз сучасніка ў тых з іх, што напісаны на гэтую тэму, рэдка з'яўляецца мастацкім адкрыццём.

На апошнім конкурсе другая прэмія была прысуджана Андрэю Макаёнку за трагікамедыю «Трыбунал» («Калабок» — конкурсная назва). На думку большасці журы, «Трыбунал» —гэта новае слова ў нашай драматургіі і ў тым ліку ў творчасці Макаёнка.

Пра Вялікую Айчынную вайну, пра патрыятызм народа напісаны тысячы кніг, пастаўлены сотні спектакляў, фільмаў. Аднак пераважная большасць гэтых рэчаў зроблена ў адным плане, традыцыйным для нашай літаратуры. Спробы расказваць пра вайну па ўзорах заходняй літаратуры і кіно нязменна прыводзілі аўтараў да правалаў. Так, у прыватнасці, атрымалася з фільмам Кучара і Вінаградава «Усходні калідор».

Не жадаючы пісаць яшчэ адну звычайную п'есу пра вайну, Андрэй Макаёнак пачаў шукаць узоры не ў літаратуры, а ў народзе — як народ расказвае пра перажытую трагедыю, у якой, аднак, быў найвышэйшы ўзлёт народнага аптымістычнага духу. Мы часта чулі і чуем гэтыя вусныя расказы, асабліва ў вёсках. У іх заўсёды сур'ёзнае, высокае, гераічнае суседнічае са смешным, вясёлым і арганічна зліваецца.

А. Макаёнак так і вызначыў жанр сваёй новай рэчы — «народны лубок». Задача гэтая нялёгкая — аб'яднаць трагедыйнае і камедыйнае. Драматург адважыўся, і ў яго атрымалася. Той факт, што п'еса ўжо пастаўлена ў РСФСР, на Украіне, у Літве, пазней у нас, дома, і зараз рэпеціруецца ў многіх дзесятках тэатраў,—лепшае пацвярджэнне ўдачы драматурга.

Не затрымліваючыся на разборы трагікамедыі, я хачу звярнуць вашу ўвагу на адну асаблівасць яе, якой, на маю думку, і абумоўлены



У перапынках паміж пасяджэннямі. І. Шамякін, А. Салынскі і А. Макаёнак.



А. Дзялендзік і К. Крапіва.



І. Дабралюбаў, Г. Бураўкін і В. Быкаў.

Фота Ул. КРУКА.

# 500 ТАМОЎ РОДНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

ЧАСОПІС, канечне, не газета, але ўсё-такі выданне перыядычнае. Мінаецца час, да падпісчыкаў прыходзіць чарговая кніжка, і старая, прачытаная, як і ўчарашняя газета, адыходзіць у нябыт. Ставіць на кніжную паліцу гадавыя камплекты часопісаў неяк не прынята, ім адводзіцца больш сціплае месца — у цесных бібліятэчных сховішчах ці пыльных і цёмных каморках кнігалюбаў. Ды толькі дзіўная рэч: чым больш час аддзяляе нас ад гэтых запыленых, пажаўцелых камплектаў, тым большую вагу яны набываюць. Успамінаю, з якім хваляваннем браў у Ленінцы ўпершыню ў рукі, будучы студэнтам, тоненькія, сціплыя кніжкі «Маладняка» і «Маладога аратага», са старонак якіх павявала духам і водарам таго незабыўнага і незвычайнага часу...

Вось прыгадаў кніжачкі «Маладняка», а сам думаю — пра «Полымя». Пра юбіляра — толькі што выйшла ў свет ягоная ПЯЦІСОТАЯ кніжка.

Пяцьсот кніжак «Полымя»... Цікава, ці ёсць дзе такі кнігалюб, у якога маюцца ўсе гэтыя пяцьсот кніжак? Няўжо ёсць такія багацеі? Гэта ж — найпаўнейшы і найцікавейшы збор, уся пяцідзесяцігадовая (амаль пяцідзесяцігадовая!) гісторыя беларускай савецкай літаратуры — ад самага яе пачатку да сённяшніх дзён высокага ўзлёту.

«Полымя».. Яно ўспыхнула ў далёкім ужо для нас 1922 годзе, таксама ў снежні. Гэта быў цяжкі для нашай краіны час. Толькі што ацiхлі франты грамадзянскай вайны, толькі што Беларусь (на жаль, не ўся, толькі палова) была ачышчана ад замежных інтэрвентаў. Толькі што пачынаўся вялікі, гераічны этап будаўніцтва — палітычнага, гаспадарчага, культурнага. І памагаць, садзейнічаць гэтаму стваральнаму будаўніцтву, перш за ўсё культурнаму, было заклікана «Полымя»— першы ў нашай рэспубліцы літаратурны часопіс.

Так, менавіта ў гэтым— прыцягнуць да беларускага культурнага будаўніцтва свядомыя і здаровыя сілы народа — бачылі задачу часопіса яго стваральнікі Янка Купала, Якуб Колас і Цішка Гартны, першы палымянскі рэдактар. А яшчэ ў тым, каб заклікаць і натхняць чытачоў на барацьбу за новы, сацыялістычны лад, на барацьбу за новага чалавека. Менавіта таму першым жа сваім нумарам «Полымя» апавяшчала і сцвярджала, што яно будзе даваць шырокую дарогу тым беларускім пісьменнікам, якім «навявае мелодыі муза вызвалення працоўных грамадаў».

Гэтым сваім запаветам «Полымя» (яго ў розныя часы ўзначальвалі такія выдатныя прадстаўнікі нашай літаратуры, як П. Галавач, народныя пісьменнікі Беларусі Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка і Максім Танк) заставалася верным праз усе гады. Заўсёды яно ішло крок у крок з жыццём краіны, натхнялася гэтым жыццём, радавалася і змагалася за гэта жыццё. І, пэўна ж, свой сённяшні высокі аўтарытэт, вялікую павагу і любасць чытачоў «Полымя» здабыло тым, што заўсёды было прынцыповым, бескампрамісным у адстойванні і сцвярджэнні праўды новага веку — веку, азоранага неўміручымі ідэямі Леніна, тым, што заўжды аддавала свае старонкі лепшым здабыткам роднай літаратуры.

Каб пераканацца ў гэтым, пагартаем толькі бліжэйшыя да нашага сённяшняга чытача палымянскія кніжкі пасляваенных гадоў. На іх старонках знойдзем: «На ростанях» і «Рыбакову хату» Якуба Коласа, «Векапомныя дні» Міхася Лынькова, «Глыбокую плынь», «Сэрца на далоні» і «Снежныя зімы» Івана Шамякіна, «Людзей на балоце» і «Подых навальніцы» Івана Мележа, «Калі зліваюцца рэкі» Петруся Броўкі, «На парозе будучыні» і «Гарадок Устронь» Міколы Лобана, «Сустрэнемся на барыкадах» і «Серадзібор» Піліпа Пестрака, «У Забалоцці днее» і «Птушкі і гнёзды» Янкі Брыля, «Засценак Малінаўка» Аркадзя Чарнышэвіча, «За годам год», «Вясеннія ліўні» і «Нямігі крывавыя берагі» Уладзіміра Карпава, «Расстаемся ненадоўга» і «Расцвітае мята пад акном» Аляксея Кулакоўскага, «Каласы пад сярпом тваім» Уладзіміра Караткевіча, «Тартак» і «Мсціжы» Івана Пташнікава, «Апошнія і першыя» Барыса Сачанкі, раманы, аповесці і апавяданні Янкі Скрыгана, Рамана Сабаленкі, Алеся Савіцкага, Ільі Гурскага, Міхася Машары, «Колас расказвае пра сябе» і «Дванаццаць вячорных вогнішчаў» Максіма Лужаніна, «Загадку Багдановіча» Міхася Стральцова, дакументальныя аповесці Івана Новікава, п'есы Кандрата Крапівы, Андрэя Макаёнка, Кастуся Губарэвіча і Аркадзя Маўзона, вершы і паэмы Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Васіля Віткі, Кастуся Кірэенкі, Аляксея Пысіна, Сяргея Дзяргая, Аляксея Русецкага, Анатоля Вялюгіна, Міколы Аўрамчыка, Антона Бялевіча, Анатоля Вярцінскага, Рыгора Барадуліна, нарысы Янкі Сіпакова, Веры Палтаран, Ігната Дуброўскага, Валянціна Мысліўца...

Пералічыць усё немагчыма — гэты пералік зойме вельмі шмат месца.

А «Полымя» — гэта ж не толькі люстра нашага прыгожага пісьменства.

«Полымя» — гэта лепшыя старонкі беларускай публіцыстыкі.

«Полымя» — гэта нараджэнне і развіццё беларускай мемуарыстыкі.

«Полымя» — гэта найбольш яркія старонкі нашага літаратуразнаўства і крытыкі.

«Полымя» — гэта змястоўная кніга па гісторыі

---

поспех. Гэта — выбар галоўнага героя.

Літаратура, тэатр, кіно за чвэрць стагоддзя стварылі нямала яркіх запамінальных вобразаў палкаводцаў, афіцэраў, партызанскіх камандзіраў, падпольшчыкаў разведчыкаў. А назавіце мне вобраз радавога салдата, партызана, проста селяніна-патрыёта, які запомніўся б нам гэтак жа, як славутыя разведчыкі? Назавяце: Андрэй Сакалоў! А больш?

Цярэшка Калабок стаяў на самай нізкай ступені сацыяльнай лесвіцы— ён просты пастух. І ён, гэты тыповы беларускі селянін даваеннага часу, праявіў такую сілу патрыятызму, якая дазваляе нам паставіць гэты вобраз побач з шолахаўскім Сакаловым.

«Дарога праз ноч» (конкурсная назва «Людзі, нелюдзі і смерць») Аркадзя Маўзона таксама аб патрыятызме савецкіх людзей—аб маладых падпольшчыках Віцебска.

Матэрыял падпольнай барацьбы дае магчымасць будаваць сюжэт дынамічны, востры, які захапляў бы гледача. Маўзон так і пачаў, але ў яго як бы не хапіла цярпення і часу. Кампазіцыя разрыхлілася. Спроба аб'яднаць элементы драмы пры дапамозе «жанчыны ў белым» — вядучай, не дала плённага эфекту ні ў літаратурным варыянце, ні на сцэне. Можна было б не выказваць гэтых заўваг, каб А. Маўзон быў малады драматург, каб мы не ведалі яго магчымасцей — магчымасцей аўтара выдатнай драмы «Канстанцін Заслонаў».

Пра гераізм савецкіх жанчын — ваенных лётчыц, у прыватнасці, пра нашу зямлячку Галіну Дакутовіч, расказвае п'еса Ул. Мехава «Палёт». Хачу адзначыць імкненне Ул. Мехава і ў прозе і ў драматургіі стварыць вобразы канкрэтных людзей, якія пакінулі прыкметны след у гісторыі рэвалюцыі, Айчыннай вайны. Яго першая п'еса «Чырвоны губернатар», пастаўленая тэатрам юнага гледача, была прыхільна сустрэта і гледачом, і крытыкай. У ёй быў адзін недахоп — людзям, якія дэталёва не вывучылі гісторыі, а тым больш вучням, многія сітуацыі цяжка было зразумець.

Увогуле жыццё, барацьба выдатных дзеячоў нашай гісторыі — удзячны матэрыял для драматургаў і тэатраў.

Рыхтуючыся да даклада, я прачытаў трагедыю Ул. Караткевіча «Смерць і неўміручасць Кастуся Каліноўскага». Рэч напісана з веданнем прадмета, у рамантычным стылі, сакавітай мовай, уласцівай гэтаму самабытнаму пісьменніку. Ёсць, праўда ,драматургічныя пралікі.

Верны сваёй тэме, Алесь Махнач напісаў п'есу для дзяцей «Маленькія салдаты Брэсцкай крэпасці». Твор уваскрашае незабыўныя старонкі вялічнай эпапеі змагання савецкіх людзей у першы, самы цяжкі, месяц вайны.

Варта сказаць яшчэ некалькі слоў пра драматургію для дзяцей. Калі мы гаворым пра адставанне дарослай драматургіі, то пра дзіцячую ўвогуле часта маўчым. У гэтай галіне не толькі тэматычнае адставанне, але і колькаснае таксама: мала, вельмі мала пішам мы для дзяцей. Гэта проста-такі недаравальна, бо больш удзячнага, больш уважлівага гледача, як дзеці, няма, і нікому так не патрэбны непасрэдныя зносіны з жывым акцёрам, як дзецям, нішто так не выхоўвае іх густ, іх цягу да прыгожага. Дзецям трэба **тэатр** у добрым разуменні гэтага слова. У нас толькі два прафесійныя дзіцячыя драматычныя калектывы. А таму лічу, што ўсе іншыя тэатры абавязаны мець у сваім рэпертуары па некалькі спектакляў для дзяцей усіх узростаў!

На апошнім конкурсе адзначаны тры п'есы на сучасную тэму, дзве з іх — камедыі. Ведаю, што некаторых тэатральных работнікаў трохі здзіўляе такая ўвага да камедыйнага жанру. А мне здаецца, што гэта вельмі натуральна і адпавядае традыцыям нашай нацыянальнай драматургіі — традыцыям Дуніна-Марцінкевіча, Я. Купалы, К. Крапівы, аптымістычнаму духу народа, які заўсёды, у бядзе і радасці, умеў і ўмее хораша пасмяяцца.

«Амністыя» Мікалая Матукоўскага толькі што пастаўлена ў Акадэмічным тэатры; спектакль не пакінуў абыякавым нашу грамадскасць, і многія з удзельнікаў пленума ўжо яго паглядзелі.

М. Матукоўскі хораша, з пачуццём меры, добразычліва, часцей сродкамі гумару, чым сатыры, хоць ёсць і сатырычныя сітуацыі і вобразы, высмеяў некаторыя з'явы, якія маюць месца ў рабочых калектывах і якія народжаны менавіта нашым часам — у перыяд дэмакратызацыі ўсіх звенняў кіравання, форм грамадскай работы. На чыстай, але бурнай плыні непазбежна ўсплывае бруднаватая пена, нахабныя салавейчыкі, «добранькія» божашуткавы, бесхрыбетныя прасцячкі і выканаўцы чужой волі кічкайлы. Дарэчы, вобраз Кічкайлы ў выкананні Кармуніна і вобраз Ягадкі ў выкананні Арловай, па-мойму, самыя яркія ў спектаклі, гэта — бясспрэчныя ўдачы.

Я зрабіў бы М. Матукоўскаму толькі дзве заўвагі. Першая: залішне шырока расцягнуў аўтар свой невад і ў яго набілася многа розных праблем і праблемак. Гэта проста неэканомная трата творчых назіранняў, можна было б што-нішто пакінуць для будучай камедыі.

Другое. Я не трымаюся тае думкі, што ў камедыі абавязкова павінен быць станоўчы герой. Але калі ён ужо ўведзен, то павінен быць **героем**. Гэтага не атрымалася з Ізабелай Дрозд. Праўда, гэта больш адносіцца да спектакля, дзе ігра актрысы не толькі не ўзняла гэты вобраз, а яшчэ больш прынізіла яго.

Камедыя П. Харкова «Спадчына і спадчыннікі» («Рэпартаж з пекла») у журы не атрымала такой адзінадушнай падтрымкі, як «Амністыя». Але мне асабіста гэта рэч спадабалася незвычайнасцю і дасціпнасцю сітуацый, яркасцю камедыйных вобразаў, добрай рускай мовай, што здараецца рэдка: па-руску ў нас пішуць многія, але мова гэтых твораў часта рэжа вуха.

Міхаіл Герчык упершыню выступіў у драматургіі. Яго п'еса «І вечны бой» не была дасканалай, у ёй 126 старонак; гэта нават для часоў Астроўскага многа. Але ў п'есе дэталёва, з веданнем справы напісаны сцэны жыцця і працы будаўнікоў, савецкай інтэлігенцыі — і гэта схіліла шалі конкурсных вагаў у карысць аўтара. З адной толькі сітуацыяй я, ды і некаторыя іншыя таварышы, не можам пагадзіцца.

Ёсць у п'есе вобраз маладога беларускага паэта (між іншым, месца дзеяння дакладна акрэслена — Мінск). Хлапчына гэты нізкапаклонніча пе рад Захадам і піша паклёпніцкую кнігу, перадае яе ў ФРГ, пасля едзе туды турыстам і застаецца там.

Я ведаю, што такое выдумка, фантазія, без якой няма творчасці. Смешнымі і дзіўнымі здаюцца «крытыкі», якія аўтара, што напісаў адмоўны вобраз прафсаюзнага дзеяча, абвінавачваюць у паклёпе на савецкія прафсаюзы і г. д. Але ў нас адзіная пісьменніцкая арганізацыя, не вельмі вялікая, і, дзякуй богу, у ёй і блізка не было ды і не магло быць чалавека, падобнага на персанаж п'есы Герчыка. Дык ці варта гэта выносіць на сцэну?

Драма А. Маўзона «Усяго адно жыццё» з поспехам ідзе ў тэатры імя Горкага, у іншых тэатрах БССР і за межамі рэспублікі. Па форме, дынамічнасці сюжэта, выразнасці ідэі — гэта адна з лепшых п'ес Маўзона. Аднак у ёй праглядваюцца некаторыя літаратурныя рэмінісцэнцыі.

Тэатр імя Янкі Купалы заканчвае працу над пастаноўкай новай драмы А. Дзялендзіка «Начное дзяжурства». Я прачытаў п'есу ў рукапісе і не магу не падзяліцца радасцю за драматурга, якога мы па інерцыі называем маладым. Не, «Начное дзяжурства» — твор сталага майстра, рэч сур'ёзная, філасофская, а галоўнае — праўдзівая ва ўсім. Я падумаў: як гэта важна, калі пісьменнік дасканала ведае прадмет, які выбраў аб'ектам даследавання. Кожная сітуацыя, кожная рэпліка, кожны рух, фізічны і духоўны, — усё праўда. А ў выніку і характары вылеплены рэльефна, аб'ёмна. Жывыя людзі, нашы сучаснікі, якіх жыццё сутыкае з сур'ёзнымі і нялёгкімі праблемамі. І яшчэ адна якасць: месца дзеяння незвычайнае — псіхіятрычная бальніца, але ў А. Дзялендзіка ўсё зроблена з вялікім тактам. П'еса прасякнута сапраўдным гуманізмам.

Дэбютаваў у драматургіі Ал. Петрашкевіч. Яго камедыя «Адкуль грэх?» з поспехам ідзе на сцэне акадэмічнага тэатра. Прыемна, што аўтар паказваў ужо тэатру першы варыянт новай камедыі на тэму сучаснасці.

У свеце ідзе жорсткая барацьба паміж лагерам сацыялізма і прагрэсу і лагерам імперыялізму, неакаланіялізму і цемрашальства. Але скажам шчыра: пішам мы на гэтыя тэмы недаравальна мала. Вось чаму камедыя Андрэя Макаёнка «Зацюканы апостал» з'яўляецца цікавай з'явай нашай драматургіі.

А. Макаёнак не вызначае, у якой краіне адбываецца дзея. Ён нават імёны сваім героям дае агульначалавечыя: Тата, Мама, Малыш, Дачка, Дзядуля. Але гэты прыём дазволіў яму з найбольшай сілай стварыць абагулены вобраз буржуазнага грамадства, выкрыць яго прадажнасць, здрадніцтва, здзек са святых ідэалаў, ханжаства, боязь праўды, жывога слова, аналізу навакольных з'яў; такому грамадству не патрэбны вундэркінды, якія да многага могуць дайсці сваім розумам, яго больш задавальняюць бяздумныя аўтаматы. Па жанры «Зацюканы апостал» — філасофская трагікамедыя, жанр амаль небывалы ў нашай драматургіі. Магчыма, гэтая арыгінальнасць, незвычайнасць і палохала некаторых нашых тэатральных дзеячоў.

Побач з арыгінальнымі п'есамі ўсё часцей і часцей на сцэне выступае іх малодшая сястра—інсцэніроўка празаічных твораў, у апошні час і паэтычных. «Людзі на балоце», «Сэрца на далоні», «Руіны страляюць ва ўпор», «Рудабельская рэспубліка», «Твой высокі поўдзень» у значнай меры дапоўнілі, пашырылі, а, магчыма, і паглыбілі нацыянальны рэпертуар. Я не разбіраю гэтыя спектаклі. Але хачу паставіць некалькі пытанняў перад тэарэтыкамі, мастацтвазнаўцамі, крытыкамі. Што такое інсцэніроўка? Што ад яе патрабуецца? Якой яна павінна быць? Што мае права рабіць інсцэніроўшчык і чаго не мае? Якія асаблівасці ўвасаблення вялікага празаічнага палатна на сцэне?

Ёсць асобы від драматургіі—опернае і балетнае лібрэта, від складаны, цяжкі. Аднак пра аўтараў лібрэта мала пішуць і гавораць, бо нават на афішах іх засланяюць кампазітары і выканаўцы. Але мы ведаем, што без літаратурнай асновы і ў оперным тэатры нічога не народзіцца.

На сённяшнім пленуме варта самым добрым словам адзначыць працу пісьменнікаў-лібрэтыстаў. Першы сярод іх — Алесь Бачыла, які нязменна і плённа працуе ў гэтым жанры. Тыдні два назад урачыста, як свята, прайшла прэм'ера новай нацыянальнай оперы па яго лібрэта «Зорка Венера» (музыка Ю. Семянякі), твора дарагога нам тым, што на опернай сцэне ўвасоблены вобраз Максіма Багдановіча. Не бяруся гаварыць пра музыку, але слухаў я оперу з вялікай цікавасцю і хваляваннем. Праўда, у лібрэта хацелася б больш драматызму.

У жанры опернага і балетнага лібрэта не без поспеху выступалі Пятрусь Броўка, Яўген Рамановіч, Эдзі Агняцвет, Анатоль Вярцінскі, Міхась Калачынскі. Шкада, што некаторыя з іх адышлі ад гэтай высакароднай працы. А паэты маладзейшага пакалення чамусьці не прыцягваюцца да стварэння лібрэта. Я не ведаю, хто павінен праяўляць найбольшую ініцыятыву. Відаць, не самі паэты. Напэўна, у большай меры—тэатр, кампазітары, аддзел Міністэрства культуры.

Некалькі слоў пра «малую драматургію». Не ўдаючыся ў дэталі, канстатую сумны факт: яна ў нас занепадае з году ў год і—самае дзіўнае— усе мы абыякавыя да гэтага.

Яшчэ не вельмі даўно аднаактоўкі пісалі Макаёнак, Дзялендзік, Губарэвіч, Рылько, Махнач, Зуб і многія іншыя. Ва ўсякім разе, малыя п'есы з'яўляліся ў часопісах, у «ЛіМе», у іншых газетах. Але ўжо колькі гадоў іх не відно нідзе. Між тым «маламетражная» п'еса пры нашым развіцці самадзейнасці патрэбна, як паветра,

роднага краю, па гісторыі навукі, культуры і мастацтва нашага народа.

Урэшце, «Полымя» — гэта духмяны букет «кветак з чужых палёў», багатая і прадстаўнічая анталогія паэзіі і прозы літаратур іншых краін і народаў на роднай мове.

Вось чаму выхад пяцісотага нумара «Полымя» не толькі свята для яго ўдзячных чытачоў, але і свята ўсёй нашай грамадскасці...

У чытачоў — свята, а ў супрацоўнікаў «Полымя» — напружаныя рабочыя будні. Вычытваецца карэктура 501-га нумара, рыхтуюцца да здачы ў набор матэрыялы 502-га, у аддзелах рэдакцыі прыкідваюцца і ўдакладняюцца планы наступных палымянскіх кніжак.

Пра гэтыя планы я папрасіў сказаць некалькі слоў галоўнага рэдактара часопіса П. Кавалёва.

— Пра планы гаварыць заўсёды цяжка, — усміхнуўся Павел Нічыпаравіч. — Таму скажу толькі пра тое, што з'явіцца на старонках «Полымя» ў бліжэйшых нумарах. Гэта — працяг паэмы народнага паэта рэспублікі Аркадзя Куляшова «Далёка да акіяна», новыя паэмы Васіля Зуёнка, Аляксея Русецкага і Рыгора Барадуліна, цыклы вершаў народных паэтаў Беларусі Петруся Броўкі і Максіма Танка, новыя творы Кастуся Кірэенкі, Еўдакіі Лось, Ніны Тарас, Аляксея Пысіна, Міколы Аўрамчыка, Хведара Жычкі... З прозы — раманы «Непрыкаянны маладзік» Алеся Асіпенкі і «Кастусь Каліноўскі» Алеся Якімовіча, кінааповесць Івана Шамякіна «Эшалон у Германію», аповесці «Падарожжа ў Рослікі» Рамана Сабаленкі і «Туман над стэпам» Рыгора Няхая... Цікавымі, нам здаецца, абяцаюць быць і раздзелы нарыса, навукі, гісторыі, літаратуразнаўства і крытыкі...

Пажадаем жа палымянцам і надалей добрага настрою, бадзёрасці і творчага імпэту — каб шугала, не блякла наша «Полымя», каб свяціла яно далёка і шырока. Думаю, што да гэтага пажадання далучацца ўсе чытачы штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва».

**Мікола ГІЛЬ.**





Учора наш фотакарэспандэнт Ул. Крук зайшоў да суседзяў «ЛІМа» ў рэдакцыю часопіса «Полымя» і зрабіў гэтыя здымкі будняў палымянцаў. На здымку ўверсе — галоўны рэдактар П. Кавалёў, намеснік галоўнага рэдактара А. Русецкі і адказны сакратар А. Бачыла абмяркоўваюць макет наступнага 501-га нумара часопіса. На другім здымку — загадчык аддзела паэзіі Р. Барадулін (злева) гутарыць з маладым паэтам Ул. Скарынкіным — адным з многіх аўтараў, што наведалі ў гэты дзень рэдакцыю.

*ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!*

## АЛЯКСАНДРУ ГУТКОВІЧУ — 50 гадоў



**Спаўняецца 50 гадоў драматургу Аляксандру Залманавічу Гутковічу. Праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі накіравала юбіляру прывітанне, у якім гаворыцца:**

**«Дарагі Аляксандр Залманавіч!**

**Ад шчырага сэрца віншуем Вас з нагоды Вашага 50-годдзя з дня нараджэння.**

**Вы прыйшлі ў літаратуру сталым, бывалым чалавекам. І гэта яскрава праявілася ў Вашых п'есах, напісаных сумесна з іншымі літаратарамі: «Праўда і шчасце», «Юныя мсціўцы», «Справа не жыцця».**

**Вашаму пяру належыць рад інсцэніровак, таксама напісаных ў сааўтарстве: «Уласнасць» (па раману К. Чорнага «Трэцяе пакаленне»), «Калі зліваюцца рэкі» (па раману П. Броўкі), «Трывожнае шчасце» (па кнізе І. Шамякіна) і іншыя.**

**Многа і плённа працуеце Вы як рэжысёр студыі Баларускага тэлебачання. За пастаноўку тэлеспектакля «Людзі на балоце» Вам нададзена званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР.**

**Жадаем Вам, дарагі Аляксандр Залманавіч, добрых поспехаў у творчай працы, здароўя, шчасця ў жыцці».**

**Рэдакцыя штотыднёвіка «Літартура і мастацтва» далучаецца да гэтага віншавання.**

як вада, як хлеб. Напісаць аднаактоўку, якую схапілі б усе калектывы, гэта што напісаць песню накшталт «Ручнікоў» Веры Вярбы.

Ненармальнае становішча з малой драматургіяй адчулі і ў Маскве. СП і Міністэрства культуры СССР абвясцілі конкурс на лепшую п'есу для самадзейнасці.

На ўсесаюзным пленуме многа гаварылася таксама пра арганізацыйныя пытанні — пра надрукаванне п'ес, адносіны драматургаў з тэатрамі, органамі культуры. Вострай праблемы з публікацыяй у нас няма. Па ўказанні ЦК КПБ нашы літаратурна-мастацкія часопісы і нават газеты друкуюць лепшыя п'есы. І выдавецтва «Беларусь», хоць са скрыпам, але выдае драматургічныя зборнікі.

Што ж датычыць адносін драматургаў з тэатрамі, то тут нельга не ўстрывожыцца. Яны, адносіны гэтыя, ва ўсіх іх праявах, не становяцца лепшымі, больш творчымі, чым былі раней.

Раней, працягваючы традыцыі Купалы, Чорнага, Коласа, Крапівы, пісьменнікі па-сапраўднаму сябравалі з нашымі нацыянальнымі тэатрамі. Новыя спектаклі ў тэатрах Купалы і Коласа з'яўляліся падзеямі для ўсёй літаратурнай грамадскасці.

Пасля таго, як пакінулі сцэну Саннікаў, Платонаў, Глебаў, Ільінскі, Мазалеўская, Дорскі, нешта як бы абарвалася. Акцёры тэатра Купалы нядаўна паскардзіліся мне, што яны вельмі рэдка бачаць пісьменнікаў на спектаклях. Пісьменнікі ж выказваюць крыўду, што цяпер ніхто іх на здачы спектакляў, на прэм'еры не запрашае.

З Міністэрствам культуры ў Саюза пісьменнікаў па афіцыйнай лініі адносіны бездакорныя. Драматычных канфліктаў не бывае. Але ці так ужо гэта добра? Без канфлікту няма руху, дынамікі.

Я, напрыклад, не магу зразумець, чаму некаторыя п'есы актыўнага беларускага драматурга Андрэя Макаёнка спачатку ставяцца ў Маскве, Кіеве, Вільнюсе, Харкаве, а пасля ўжо прыходзяць на сцэну родных тэатраў? Хіба такія факты можна занесці ў актыў клопатаў пра развіццё драматургіі і тэатральнага мастацтва? Драматургі скардзяцца, што ўсё цяжэйшым робіцца шлях п'есы да сцэны. Чаму? Каму гэта на карысць?

## II.

Перад Усесаюзным пленумам у «Литературной газете» быў апублікаваны артыкул кінарэжысёра С. Герасімава, які называўся: «Літаратура — старэйшая сястра». Артыкул С. Герасімаў пачынаў словамі: «Пры ўсёй выразнай самастойнасці кінематографа, якую ён заваяваў да сямідзесятых гадоў нашага веку, лічыць яго вызваленым ад рашаючага ўплыву літаратуры было б несур'ёзна».

Старэйшы кінадзеяч, рэжысёр і сцэнарыст, які пераажыў усе перыяды гісторыі савецкага кіно, усе моды і захапленні, прыйшоў да простай, але адзіна правільнай высновы.

У апошнія два-тры гады агульная карціна робіцца больш радаснай. Пасля пошукаў на ўзбочыне маладыя рэжысёры вяртаюцца ў шырокае і глыбокае рэчышча традыцый савецкага кіно, у рэчышча рэалістычнага адлюстравання велічных спраў народа. І са старэйшай сястрой сваёй — літаратурай — кіно больш пачало радніцца, ласкавей гарнуцца да яе.

Усё гэта мае пэўнае дачыненне і да студыі «Беларусьфільм», да нашай нацыянальнай кінематаграфіі.

Колькі гадоў назад сумесныя нарады, сустрэчы кінадзеячоў і пісьменнікаў, як правіла, прысвячаліся высвятленню ўзаемаадносін, узаемным папрокам. У апошнія гады адбыўся прыкметны станоўчы зрух у нашых адносінах з кіно.

Па ўказанні ЦК КПБ Камітэт па кінематаграфіі ўвёў у сцэнарна-рэдакцыйную калегію некалькі вядомых пісьменнікаў, драматургаў. Зараз калегію ўзначальвае Максім Лужанін. У ёй актыўна працуюць А. Куляшоў, А. Макаёнак, А. Дзялендзік, Ю. Лакербая. Дагэтуль галоўную сцэнарную прадукцыю давалі сцэнарысты Масквы, Ленінграда, Адэсы. Яны «выручалі» студыю і, між іншым, і студыя і камітэт былі ім удзячныя, хоць шэдэўраў, зробленых па гэтых сцэнарыях, ніхто з нас не помніць. Гледачы помняць «Чырвонае лісце», «Гадзіннік спыніўся апоўначы», «Дзяўчынка шукае бацьку», «Трэцюю ракету», «Альпійскую баладу», «Маскву — Геную». Аднак гэтыя малавядомыя, але прафесійныя сцэнарысты збоку сапраўды часта выручаюць (без двукосся) студыю, яны выдатна ведаюць вытворчыя магчымасці і падкідваюць з кінематаграфічнага пункту гледжання гатовенькі сцэнарый якраз жа тады, калі той ці іншай групе пагражае прастой. А студыя — гэта фабрыка, якая стаяць не можа, і запускаецца яшчэ адзін фільм, падобны на дзесяткі іншых, зробленых на іншых студыях. І ўся нацыянальная асаблівасць гэтага фільма толькі ў тым, што панарамна здымаецца наш новы цудоўны кінагенічны Мінск. Дарэчы, «прасоўванню» такіх хадавых сцэнарыяў моцна памаглі кուратары з Усесаюзнага Камітэта.

Не скажу, што сцэнарная калегія ўжо зрабіла пераварот на студыі, не ўсё ад яе залежыць, але, паўтараю, зрухі ёсць у справе прыцягнення беларускіх пісьменнікаў да стварэння сцэнарыяў.

Вось карціна за апошнія тры гады.

У 1968 годзе выйшаў, па-сутнасці, толькі адзін фільм па сцэнарыі нашага пісьменніка — «Жыццё і ўзнясенне Юрася Братчыка» (сцэнарыст — Ул. Караткевіч). Другі фільм — кароткаметражны па апавяданні Я. Брыля «Надпіс на зрубе».

У 1969 годзе ўжо здымаюцца тры фільмы: «Ствары бой» па сцэнарыі Ю. Лакербая, «Сыны ідуць у бой» А. Адамовіча і «Я, Францыск Скарына» М. Садковіча. У 1970 годзе выйшлі і запушчаны ў вытворчасць: «Чорнае сонца» К. Кісялёва і А. Спешнева, «Шчаслівы чалавек» Ф. Конева, «Неспадзяванае каханне» Г. Бекарэвіча і Ф. Конева, «Паланез Агінскага» К. Губарэвіча, «Пяцёрка адважных» А. Асіпенкі, «Магіла льва» Ю. Лакербая, «Рудабельская рэспубліка» М. Фігуроўскага (па кнізе С. Грахоўскага), «Бацька Мінай» Р. Шмырова і Ф. Конева.

Знаходзяцца ў партфелі сцэнарыі В. Вольскага і А. Грыгар'янца «Прыгоды Янкі», Г. Бураўкіна «Брат Фелікса», К. Губарэвіча «Лясныя браты», І. Новікава «Рыжая Галка», А. Макаёнка «Не пакінеш мяне?», «У лясах пад Бабруйскам» М. Фігуроўскага (як працяг «Рудабельскай рэспублікі»), «Капітан Налепка» А. Дзялендзіка і М. Крно, «Хроніка ночы» А. Спешнева, «Эшалон у Германію» — мой.

Як бачыце, па колькасці і па складзе аўтараў карціна амаль радасная. Але зноў-такі, як і ў драматургіі для тэатра, пэўную трывогу выклікае тэматычны змест выпушчаных і будучых фільмаў. З усяго гэтага пераліку толькі два сцэнарыі — пра сучаснасць.

## III.

Пераходжу да апошняга і самага цяжкага для мяне раздзела — драматургіі тэлебачання.

Спрэчкі аб тым, што такое тэлебачанне, па-мойму, скончыліся, адышлі ў нябыт. Цяпер ужо ніхто не стане даказваць, што тэлевізійны спектакль не адрозніваецца ад тэатральнага, і тэлефільм ва ўсіх кампанентах падобны на фільм для звычайнага экрана. Не, гэта даволі розныя рэчы.

Нарэшце, заўсёды, пры разборы любой тэлевізійнай з'явы, трэба ўлічваць адну надзвычайную асаблівасць — масавасць аўдыторыі, масавасць каласальную.

Гэта, між іншым, стварае шэраг сур'ёзных праблем; такая масавасць мае і свае адмоўныя бакі. Ва ўсялякім разе, наўрад ці навучыліся мы мовай мастацтва гаварыць з такой вялікай аўдыторыяй.

Наш абвязак — задумацца, як уплывае тэлебачанне на развіццё другіх відаў мастацтва і, у прыватнасці, літаратуры. Безумоўна, адно: яно забірае ў нас чытачоў. Чытаюць мастацкую літаратуру ўсё менш і менш — па меры павелічэння колькасці тэлевізараў, пранікнення іх у самыя глухія і аддаленыя куткі краіны.

Вось чаму мне сёння хочацца заклікаць самога сябе і ўсіх маіх калег: давайце заваюем тэлебачанне! Давайце заваюем тэлегледача! Тэлебачанне дапаможа нам дайсці да сэрцаў, пачуццяў мільёнаў чытачоў усіх узростаў і прафесій. Ужо зараз ёсць нямала форм удзелу пісьменніка ў тэлевізійных перадачах. На жаль, мы іх не ўсе выкарыстоўваем. Але, напэўна, самыя цікавыя, самыя дзейсныя і самыя патрэбныя і гледачам, і нам, пісьменнікам, формы яшчэ не адкрыты.

Сёння ж належыць закрануць толькі адну праблему: што такое тэлевізійная драматургія? Якой яна павінна быць? У чым яе прынцыповае адрозненне ад тэатральнай і кінадраматургіі?

Безумоўна, часта тэлевізійная драматургія, якая набывае самастойнасць і сталасць на сусветным блакітным экране і пачынае афармляцца на ЦТ, у нас знаходзіцца ў эмбрыянальным стане. Развіццё яе пакуль што стрымліваецца штучна самім тэлебачаннем, неўпарадкаванай сістэмай аплаты.

Нарэшце, вельмі важна высветліць, якой павінна быць тэлевізійная пастаноўка?

З поспехам прайшлі «Людзі на балоце» ў пастаноўцы А. Гутковіча. Але, на маю думку, гэта яшчэ не цалкам тэлевізійны твор: тэлебачанне яўна не выкарыстала сваіх магчымасцей. І сама інсцэніроўка, і яе пастаноўка былі ў поўным палоне чыста тэатральных законаў, прыёмаў, рашэнняў. Гэта ж адносіцца і да «Векапомных дзён», і да «Жыта», «Вогненнага азімута», і да «Тартака», «Апошніх і першых».

На маю думку, больш свежасці ў інсцэніроўках паэзіі. Больш набліжаліся да тэлевізійнага відовішча «Крах» і «Трывожнае шчасце», але там ёсць свае пралікі. У «Трывожным шчасці» шмат што псавала няпэўнасць жанру — што гэта — тэлеспектакль ці тэлефільм?

Тэлебачанне ж, як ніводзін від мастацтва, дае магчымасць адысці ад многіх умоўнасцей, непазбежных на сцэне, нават у кіно. Экранная мінута, як заўважыў адзін крытык, часта змяшчае ў сабе цэлыя дзесяцігоддзі чалавечага жыцця. Тэлебачанне ж можа стварыць ілюзію часавай безумоўнасці. Вось чаму я цалкам згодзен з тымі, хто лічыць, што тэлебачанне можа ўвасобіць на сваім экране ўсе элементы рамана, усю яго вобразную структуру. Але гэта павінна рабіцца не па законах тэатра ці кіно, а па сваіх, тэлевізійных законах.

Думаю, што і «Вайна і мір», і «Ціхі Дон», і «Векапомныя дні», і «Новая зямля», і «Людзі на балоце» яшчэ чакаюць чыста тэлевізійнай формы прачытання, увасаблення на экране. А тэлебачанню не ў меншай, а магчыма яшчэ ў большай меры, чым кіно, тэатру, патрэбна сучаснасць, патрэбны той герой, які пасля напружанага працоўнага дня не толькі адпачывае перад экранам, але вучыцца жыццю, вучыцца ў сваіх таварышаў, якіх бачыць у рэпартажах і нарысах, вучыцца ў герояў мастацкіх твораў, якія павінны несці не толькі інфармацыю, але і глыбокую філасофію жыцця — камуністычную філасофію.

Для гэтага патрэбны добрыя арыгінальныя п'есы, спектаклі. Наша задача — даць іх. Толькі трэба стварыць такую атмасферу, каб на студыю тэлебачання пісьменнікі заходзілі гэтак жа часта, як у літаратурныя часопісы, у выдавецтва.

Я не меў магчымасці сказаць пра крытыку. Але крытыка сама не павінна маўчаць. Ёй адкрыты ўсе трыбуны, у тым ліку і сённяшняя — трыбуна пленума. Хачу таксама падтрымаць думку, узнятую «ЛІМам», — аб неабходнасці ў рэспубліцы калі не асобнага часопіса, то хаця б «Штогодніка тэатра, кіно, тэлебачання».

Таварышы! XXIV з'езд КПСС вызначыць новыя велічныя задачы, якімі будуць кіравацца партыя, увесь народ. З яго, гэтага гістарычнага з'езда, пачнецца новы этап у стварэнні матэрыяльна-тэхнічнай і духоўнай базы камунізма. Дазвольце выказаць упэўненасць, што мы, пісьменнікі, мастакі, пад кіраўніцтвам нашай роднай партыі будзем у першых шарэнгах стваральнікаў духоўнай базы камунізма.

піянны квінтэт, у камічную оперу «Тарас на Парнасе», створаныя ў другой палове 20-х гадоў.

Ужо з сярэдзіны 30-х гадоў М. Аладаў усё больш творча пераасэнсоўвае народныя напевы, а часцей за ўсё стварае тэмы, блізкія да народных па сваіх інтанацыйных і рытмічных рысах. Такія яркія тэмы яго Сімфаньеты, «Лірычнай сімфоніі», «Танцавальнай сюіты», полькі-гумарэскі «Вясельнікі» для своеасаблівага інструментальнага ансамбля — кларнет, скрыпка, баян.

Побач з нацыянальным народным меласам творчасць М. Аладава арганічна ўвабрала ў сябе і напевы рэвалюцыйных і масавых песень савецкай эпохі. Рэвалюцыйная песенная творчасць шырока выкарыстана ў кантатах, араторыі, у сімфанічнай паэме «Мацней за смерць» і ва уверцюры «Зары насустрач», прысвечанай 15-годдзю Кастрычніка. Інтанацыйная актыўнасць оперы «Андрэй Касценя», кантаты «Над ракой Арэсай», уверцюры-фантазіі «Дума пра пагранічніка Лагоду», партызанскіх песень, сімфоній, пачынаючы з Чацвёртай, і іншых твораў, з'яўляецца вынікам выкарыстання кампазітарам папевак савецкіх масавых песень.

Творчасць М. Аладава не толькі эмацыянальная, але і самабытная па сваёй музычнай мове. Яна характэрная толькі Аладаву ўласцівым «почыркам», стаіць на цвёрдай прафесіянальнай аснове. Кампазітар свабодна валодае аркестравай палітрай і піша адразу ў партытуры. Ён імкнецца да «чыстых» тэмбраў, часта выкарыстоўвае саліруючыя выступленні інструментаў.

Умела выкарыстаны ў М. Аладава розныя поліфанічныя прыёмы выкладання — ад народна-харавой падгалосачнай структуры да самых складаных прафесіянальных пабудоў — фуга, фугата і інш., якія надаюць музыцы вялікую дынамічнасць.

Адзначаючы творчасць М. Аладава, варта таксама памятаць, што з першага дня свайго творчага шляху кампазітар вёў вялікую педагагічную работу. Ён быў адным з арганізатараў прафесіянальнай музычнай адукацыі ў Беларусі. Пры яго ўдзеле стварaліся першы ў рэспубліцы музычны тэхнікум (цяпер Мінскае музычнае вучылішча імя Глінкі) і Беларуская дзяржаўная кансерваторыя. Ганаровую і адказную работу прафесара кафедры кампазіцыі (а ён рад гадоў быў і дырэктарам і загадчыкам кафедры) М. Аладаў вядзе і цяпер. Ён не належыць да катэгорыі педагогаў, якія старанна з чырвоным алоўкам выпраўляюць работы сваіх вучняў (хоць і гэта бывае), а выступае як сапраўдны настаўнік, які накіроўвае на пошук, абуджае ў сваіх выхаванцаў думку. І нават не варта ставіць пытанне, хто яго вучні. Хутчэй за ўсё варта спытаць, хто з сучасных музыкантаў у яго не вучыўся, бо вучыліся ў яго ўсе, хто шукаў яго дапамогі і сяброўскай парады, — ці то яго аспірантка, а цяпер кандыдат навук Г. Куляшова, ці масціты кампазітар або музыказнаўца.

Вялікі ўклад унёс М. Аладаў у рэдакцыйна-выдавецкую работу нашай рэспублікі. Пад яго кіраўніцтвам выйшлі песні, сімфанічныя партытуры і музыказнаўчыя даследаванні. Вядомы ён у Беларусі і як буйны грамадскі дзеяч — быў старшынёй і шмат гадоў членам праўлення Саюза кампазітараў, прымаў удзел у шэфскай рабоце ў часцях Савецкай Арміі, аказвае дапамогу самадзейным кампазітарам.

За натхнёную працу на карысць народа М. Аладаў удастоены звання народнага артыста Беларускай ССР і ўзнагароджаны двума ордэнамі... Звычайна такімі словамі заканчваюць юбілейны артыкул, але ўсё ж хочацца яшчэ дадаць некалькі радкоў. Усе, каму даводзілася сутыкацца з Мікалаем Ільічом на працягу многіх гадоў, аднадушна цэняць у ім вялікую, сапраўдную чалавечнасць, крыштальную сумленнасць і прынцыповасць.

Мікалая Ільіча называюць у музычным асяроддзі «маэстра». Ён мае права на гэта — кампазітар, выхавацель творчай змены, дараднік калег па мастацтву, грамадскі дзеяч і шчыры чалавек, які на працягу многіх гадоў служыць высокім ідэалам свайго часу. І разам з тым ён вельмі просты ў штодзённым жыцці, як кажуць, «даступны». З ім радасна сустракацца і гаварыць пра тое, што хвалюе цябе сёння, — Мікалай Ільіч падтрымае «тэму», стрымана і ярка дасць сваю ацэнку. Ён унутрана вельмі гасцінны чалавек. Гэта і адчуваецца, між іншым, у яго лірыцы. І вітаючы кампазітара Аладава з 80-годдзем, мы жадаем яму, каб ніколі ў яго душы не гасла святло гэтай гасціннасці, каб знаёмая нам аладаўская ўсмешка заўжды ззяла на яго твары.

**С. НІСНЕВІЧ.**

---

мак», «Брацкі сабор у Магілёве», «Гарадзішча. Стары Полацк», «Мірскі замак», трыпціх, прысвечаны старому Мінску, «Нясвіж. Вежа з гадзіннікам» і іншыя. Старыя гарады, старая архітэктура Беларусі ўбачаны вачыма нашчадка колішніх творцаў, вачыма сённяшняга мастака. Убачаны і, калі так можна сказаць, **пераж ыты** ім. У работах Марыкса мы ўспрымаем помнікі як бы «ў атмасферы мінулага». А сённяшні пагляд мастака на іх выяўлены роўна настолькі, наколькі неабходна, каб работы не выглядалі архаічнымі. На дзіва тонкае адчуванне стылістыкі кожнага помніка, яго «душы жывой»!..

А вазьміце пейзажы і нацюрморты Марыкса. Гэта цэлы свет вельмі тонкіх пачуццяў. Дастаткова тут назваць, напрыклад, яго «Хрызантэмы» або «Іней». Гэта ж сапраўды «лірычныя маналогі» мастака. Але колькі ў аналагічных «лірычных маналогах» яго велічнага, эпічнага. Такімі ўяўляюцца мне пейзажы Марыкса «Абрыў над Нёманам» або «Нясвіжскі парк».

Настолькі ж гарманічна лірыка і эпас спалучаюцца і ў чаканцы Марыкса апошніх гадоў. Гэта датычыць і прыгаданага вышэй «Падання пра Машэку», і «Лірніка», і «Скарыны». Увогуле, гаворачы пра чаканку Марыкса, нельга не адзначыць яго глыбокага разумення сутнасці гэтага старажытнага мастацтва, ведання ўласцівасцей матэрыялу. Так, «Лірнік», напрыклад, чаканены па сталі. І колькі выяўленчых магчымасцей гэтай самай сталі дэманструе нам мастак. Але не дзеля самой дэманстрацыі прыёму — кожны ўдар чакана падпарадкаваны сутнасці вобраза, які папярэдне дэталёва вывяраецца ў эскізах графічных.

Бадай, найбольш часта, разглядаючы работы Марыкса, прыгадваеш такіх мастакоў, як Рэрых, Чурлёніс, Урубель. Чаму? Справа, зразумела ж, не ў нейкіх чыста знешніх асацыяцыях, якія могуць узнікнуць. Справа — у настолькі ж тонкіх адценнях пачуцця і думкі. Гэтая тонкасць дасягаецца па-свойму, хаця і не без уліку творчага вопыту памянёных мастакоў. Ды ці толькі іх!..

Як творы сапраўднага мастацтва, работы Марыкса вытрымліваюць самы доўгі разгляд гэтак жа, як вытрымліваюць самае складанае для твораў мастацтва выпрабаванне — выпрабаванне часам. Уражвае тая ўнутраная сувязь паміж усім, што робіць у мастацтве гэты творца. А аб'ядноўвае ўсю разнастайнасць ягоных творчых парыванняў і здзяйсненняў сапраўдная народнасць і сапраўдная грамадзянскасць. Ён сапраўдны рэаліст, мастак надзвычай шырокага творчага дыяпазону. Творчасць яго развіваецца паслядоўна, прыносячы ўсё новыя здабыткі. Ён глыбока разумее, што галоўнае для мастака — зразумець душу народа і выказаць яе ў сваіх творах. І яму давялося зведаць шчасце барацьбы і сподыч творчай перамогі. Да яго бліскуча стасуюцца словы паэта: «баец паходнага палітаддзела...» Такім ён быў у гады грамадзянскай, калі працаваў у чырвонаармейскіх тэатрах, і пасля грамадзянскай, калі супрацоўнічаў з К. Елісеевым, К. Ціханавым, Е. Міровічам, Ц. Сяргейчыкам, К. Саннікавым і з многімі іншымі вядомымі дзеячамі беларускай культуры. Яму першаму ў Беларусі пашчасціла ажыццявіць афармленне спектакляў на ленінскую тэму: «Чалавек з ружжом» М. Пагодзіна і «Сям'я» І. Папова.

Высокаадукаваны чалавек, мастак па прызванні, мастак высокай творчай культуры, мастак высокай творчай волі, які працуе нават тады, калі, здавалася б, тварыць немагчыма (прыгадайце яго творы «для сябе», датаваныя гадамі вайны, — яны таксама ёсць на выстаўцы), Аскар Пятровіч Марыкс — гэта ўзор паводзін у мастацтве. Няма ў яго дня, які не быў бы адзначаны творчасцю або роздумам аб творчасці.

І ён сапраўды народны. Не толькі ў тым сэнсе, што зразумелы народу. Але і ў тым, што творчасць яго выявіла многае істотнае для народнай душы на працягу тых дзесяцігоддзяў, што прайшлі пасля Вялікага Кастрычніка. Народ жыў рэвалюцыяй, жыў тварэннем новага жыцця, новым асэнсаваннем свайго мінулага, прадбачаннем будучыні. Народ жыве гэтым сёння. І ўсім гэтым жыў і жыве мастак. Усё гэта адбілася ў творчасці Марыкса, у розных яе праявах.

Так, сапраўды, нават па гэтай невялічкай экспазіцыі бачыш, як многа зрабіў Аскар Пятровіч Марыкс — адзін з заснавальнікаў беларускага савецкага прафесіянальнага мастацтва. Ён — нястомны працаўнік у мастацтве па сёння. Ён трымае сваю творчую справаздачу перад народам з пачуццём высокай годнасці. Ён шмат чаго сказаў. І яму яшчэ ёсць што сказаць.

**Уладзімір БОЙКА.**

---



# НА ЎЗЛЁЦЕ

Маладзечаншчына.

Як многа мясцін звязана тут з імем вялікага песняра беларускага народа Янкі Купалы!

Знаёмячыся з творчасцю Янкі Купалы, маладзечанцы лепш пазнаюць мінулае сваёй Айчыны, вучацца яшчэ больш горача любіць народ, яго мову, культуру, звычаі, яго багатыя рэвалюцыйныя традыцыі. А некаторыя з землякоў вялікага паэта і самі спрабуюць сілы ў літаратурнай творчасці. Такія людзі звычайна гуртуюцца вакол мясцовых перыядычных выданняў.

На працягу апошняга дзесяцігоддзя пачынаючыя аўтары Маладзечаншчыны робяць свае першыя крокі ў літаратурнай творчасці на старонках газеты «Святло камунізма». Хочацца зазначыць, што вельмі вялікую дапамогу маладым аўтарам аказвалі ў свой час нашы землякі празаік Аркадзь Чарнышэвіч, які жыў у Радашковічах, настаўнік адной з сельскіх школ Маладзечанскага раёна драматург Іван Козел, паэт Уладзімір Варно.

І зусім не дзіўна тое, што некаторыя члены літаратурных аб'яднанняў пры рэдакцыі абласной, а потым аб'яднанай газеты, як, напрыклад, Мікола Гроднеў, Рыгор Семашкевіч і іншыя, робяць цяпер цвёрдыя крокі ў літаратуры.

У сваёй рабоце літаратурнае аб'яднанне абапіраецца на аўтараў, якія пішуць не ад выпадку да выпадку, а рэгулярна. Такія людзі — не рэдкія госці на пасяджэннях літаратурнага аб'яднання, а паўнаўладныя гаспадары. І вельмі прыемна, што гэта людзі маладыя, у якіх, як кажуць, усё жыццё наперадзе. Менавіта да такіх членаў літаратурнага аб'яднання трэба аднесці настаўніцу Лебядзеўскай сярэдняй школы Галіну Асіповіч, інжынера з Маладзечна Марата Баскіна, слесара паравознага дэпо Уладзіміра Зянько, васьмікласніцу сярэдняй школы № 4 Антаніну Нявера.

Маладыя аўтары, натуральна, адчуваюць вялікую патрэбу ў дапамозе, і яны атрымліваюць яе ад добрага знаўцы беларускай літаратуры, былога выкладчыка Маладзечанскага настаўніцкага інстытута Мікалая Іванавіча Ермаловіча. Прыемна бачыць, як радуецца ён кожнаму ўдаламу радку маладога паэта або празаіка.

Асобныя творы Галіны Асіповіч і Марата Баскіна друкаваліся ў рэспубліканскіх газетах і часопісах, вершы Антаніны Нявера і многіх іншых членаў нашага літаратурнага аб'яднання яшчэ не выйшлі за межы раёна. Аднак пра ўсіх гэтых маладых людзей можна сказаць, што яны знаходзяцца на ўзлёце. І хочацца пажадаць ім моцных крылаў для творчага палёту.

**М. ПУЖЭВІЧ,**
старшыня літаратурнага аб'яднання пры рэдакцыі газеты «Святло камунізма».

---

**Яўген КАШКАН**



## КАЛІ ЗНОЎ ЗАКАРЦІЦЬ У ВЯЗЫНКУ

**Калі зноў закарціць мне ў Вязынку,**
**Дзе Купалавых песень настоі,**
**Я вазьму свае вершы — адразу**
**Панясу нацянькі пехатою.**

**У хаціне старой над рачулкай**
**Не апошні раз і не першы**
**З прастатою і любасцю гулка**
**Прачытаю я новыя вершы.**

**Прамаўчыць мне хаціна нямая,**
**Глянуць шчырасцю вочы з партрэта.**
**Я пачую — кагосьці гукае**
**Сіратлівае ў Вязынцы лета...**

**Тоня НЯВЕРА,**
вучаніца 8 класа СШ № 4.



## АДЛЁТ БУСЛОЎ

**На небе зара разлілася,**
**Туман над ракою растаў,**
**Чародка буслоў узнялася —**
**Сядзіб беларускіх краса.**

**Апошнюю ноч начавалі,**
**А зараз — у вырай іх шлях.**
**Пад імі — бязмежныя далі**
**Ды вецер у чыстых палях.**

. . . . . . . . .

**У небе высока, высока**
**Іх клёкат самотны чуцён.**
**А там, на радзіме далёкай,**
**Галінкай махае ім клён.**

**Уладзімір ЗЯНЬКО**



## АСЕННІ МАЛЮНАК

**Вось і восень прыйшла,**
**Апусцела шумлівае поле,**
**І апошняй красой**
**Адцвілі у барах верасы,**
**І халодным вятрам**
**Для гулянкі даволі раздолля,**
**Зрэдку муцяць спакой**
**Пералётных гусей галасы.**
**У задуме — цар-дуб.**
**Прызаціх ля сівога кургана,**
**Як вячысты асілак**
**Ў адзенні сталёвым сваім,**
**Ўспамінае сяброў,**
**Што ў магіле ля ног пахаваны,**
**Іх спакой сцеражэ,**
**І чакае з падмогай жывых.**
**А на схіле гары**
**Ліст дрыготкі раняюць асіны, —**
**Сцелюць з золата**
**Чырванню тканы абрус.**
**Ды з нябёс далятае**
**Песня-крык жураўліны —**
**Ты жыві, не сумуй,**
**Дарагая для нас Беларусь!**

**Галіна АСІПОВІЧ**



## МАЦІ

**Зноў хвіліны развітання ў хаце.**
**Моўчкі мы прыселі ля стала,**
**І прымоклі вочы зноў у маці —**
**Па шчацэ слязінка паплыла.**

**Не журыся, любая матуля,**
**Разлучацца нам не ўпершыню.**
**Прыйдзе час, і зноў мяне прытуліш,**
**Зноў адчуеш ласку, цеплыню.**

**Памаўчым па звычаю старому.**
**Вузел успамінаў укладу.**
**Колькі іх ужо, дарог ад дому,**
**Колькі яшчэ новых пракладу.**

**Вячаслаў ШНУРКЕВІЧ**



## ЧЫТАЮЧЫ «НОВУЮ ЗЯМЛЮ»

**Каторы раз бяру я ў рукі томік.**
**Ледзь першую старонку адгарну —**
**Здаецца, нібы сам у нізкі домік,**
**У леснічоўку тую зазірну.**

**І ажывае ўсё тады ў той хаце:**
**На печы дзеці не падзеляць штосьць,**
**Ля печы, як заўжды, таўчэцца маці,**
**За стол садзяцца бацька і Антось.**

**У бацькі твар няветлы, спахмурнелы:**
**Ляснічы зноў натацыю чытаў,**
**Аблаяў, каб ён свет не ўбачыў белы,**
**А вось за што — каб ты яго спытаў.**

**А выгляд дзядзькі досыць зухаваты:**
**— Паснедалі! То працаваць пара!**
**Падняўся ён. Паволі рушыў з хаты,**
**За ім шыбуе следам дзетвара...**

**Загорнута апошняя старонка.**
**Паэма скончана. Жыццё — яе працяг.**
**О Беларусь! О родная старонка!**
**Нясі вышэй паэта горды сцяг!**



Яшчэ ў школе Валянціна Андрэйчанка з захапленнем іграла ў драмгуртку. Пасля сканчэння Слуцкага прафесіянальна-тэхнічнага вучылішча яна атрымала накіраванне на малочны завод у Валожын. І тут яна — адна з самых актыўных удзельніц драматычнага калектыву гарадскога дома культуры.

Фота В. ДУБІНКІ.

*ВОДГУКІ, АДКАЗЫ*

## ЖЫВАЯ ВАДА РЭСПУБЛІКІ

**Міністэрства аховы здароўя БССР пацвярджае факты, выкладзеныя ў артыкуле «Жывая вада рэспублікі», надрукаваным у газеце «Літаратура і мастацтва» 30 кастрычніка г. г.**

**Органамі санітарнага нагляду рэспублікі была арганізавана праверка санітарна-тэхнічнага стану свідравін мінеральнай вады. Пры гэтым установлена, што большасць свідравін, якія эксплуатуюцца, з'яўляюцца геолагаразведвальнымі, не пераабсталяванымі належным чынам у эксплуатацыйныя, што зніжае надзейнасць ізаляцыі мінеральных вод. Свідравіны мінеральных вод не маюць акруг горна-санітарнай аховы.**

**Аб гэтым было дакладзена Беларускаму рэспубліканскаму Савету па ўпраўленні курортамі прафсаюзаў, які згодна з Палажэннем аб санітарнай ахове курортаў і мясцовасцей лекавага значэння праводзіць усе мерапрыемствы па санітарнай ахове курортаў.**

**Міністэрства звярнулася ў Савет з просьбай неадкладна прывесці ў парадак свідравіны мінеральнай вады, даць заданне праектным арганізацыям на распрацоўку акруг санітарнай аховы курортаў, наладзіць сістэматычны лабараторны кантроль за якасцю мінеральнай вады.**

**І. КАРДАШ,**
**намеснік міністра аховы здароўя Беларускай ССР.**

## НА ЧЫЙ МЛЫН ЛЬЕ ВАДУ «НОВЫ ГУМАНІЗМ»?

### АБ ГЭТЫМ АРТЫКУЛ, ЯКІ ПРАПАНУЕЦЦА ВАШАЙ УВАЗЕ

ДАЎНЯЯ эстэтычная праблема —праблема чалавечнасці мастацтва — з асаблівай вастрынёй выступіла ў сучасных эстэтычных дыскусіях, у творчых шуканнях мастакоў розных краін і розных ідэйных арыентацый. Спрэчка аб чалавеку, аб лёсе чалавецтва, аб сутнасці і гістарычнай ролі мастацтва ўнутрана звязана з проціборствам палітычных і філасофскіх канцэпцый. Гуманізм мастацтва—гэта не толькі пытанне «чыстай» эстэтычнай тэорыі, гэта вострая праблема мастацкай практыкі.

Не так ужо рэдка даводзіцца сутыкацца з фактамі дзіўнай аднабаковасці бачання, калі сэнс чалавечага быцця, сутнасць чалавека раскрываецца мастаком з пазіцый татальнага нігілізму, у якім пафас адмаўлення не асветлены гуманістычным пафасам сцвярджэння.

Аднак было б вельмі наіўна сцвярджаць (хоць гэта іншы раз і робіцца), нібы гуманізм мастацтва абавязкова звязаны з мажорнымі вобразамі або што ўсякае адступленне ад, скажам, «лагічнай» правільнасці ў паказе чалавека—гэта дэгуманізацыя. Сутнасць, зразумела, не ў тым, што мастак трансфармуе факты і прадметы рэчаіснасці (без такога пераўтварэння мастацтва растварылася б у натуралізме), а ў тым, менавіта, які лад пачуццяў і ідэй ён сцвярджае выбраным ім спосабам.

У апошнія гады актыўна прапаведуюцца канцэпцыі, якія прэтэндуюць на новае разуменне гуманізму наогул і ў мастацкай творчасці ў прыватнасці. Гэта «новы гуманізм» спрабуе ў палітыцы проціпаставіць сацыялізму Маркса і Леніна «гуманны» і «дэмакратычны» сацыялізм па рэцэптах Шыка і Гольдшцюкера. У эстэтыцы ж прапануецца замест канкрэтна-гістарычнага падыходу карыстацца тэорыяй «рэалізму без берагоў» рэвізіяніста Гарадзі або прыняць «плюралізм думак» яго калегі Эрнста Фішэра. У рамках гэтай ідэйнай плыні праводзіцца тэзіс, згодна з якім гуманным з'яўляецца творчасць любога мастака, бо эстэтычная дзейнасць па самой сутнасці сваёй заўсёды з'яўляецца дэманстрацыяй чалавечнасці чалавека. Гэты погляд, які фарміруецца пад непасрэдным уплывам «неагуманістычных» ідэй сучаснай буржуазнай філасофскай антрапалогіі, ігнаруе канкрэтны ідэйна-мастацкі змест твора мастацтва, яго рэальную функцыю ў гістарычным працэсе, у ідэалагічнай барацьбе класаў. Самае дзіўнае тут, што пазагістарычны, а значыць, і някласавы падыход да мастацкай творчасці спрабуюць апраўдаць аўтарытэтам... Карла Маркса.

Так, напрыклад, Драган М. Ярэміч у сваёй рабоце «Гуманізм мастацтва» спасылаецца на «Эканамічна-філасофскія рукапісы 1844 года» Маркса, каб даказаць, быццам камунізм як ідэальны грамадскі лад толькі рэалізуе тыя гуманістычныя прынцыпы, якія спачатку ўласцівыя ўсялякай мастацкай дзейнасці. Паводле Ярэміча, мастацтва заўсёды з'яўлялася ідэальным вырашэннем супярэчнасцей, яшчэ не пераадоленых у рэальнай рэчаіснасці.

Абстрактная, пазагістарычная трактоўка мастацтва прыводзіць аўтара да сцвярджэнняў, адвольнасць якіх не мае патрэбы ў асаблівых абвяржэннях. На самай справе, Ярэміч лічыць, напрыклад, што ў мастацтве індывідуальная цікавасць «заўсёды супадае з грамадскімі інтарэсамі», бо мастак творыць «для ўсіх людзей і прыносіць сапраўдную асалоду ўсім без разбору». У такім «ідэальным чалавечным і чалавечым прымірэнні супярэчнасцей» бачыць аўтар неабходнасць гуманістычнага значэння ўсякага мастацтва.

Але ж менавіта Маркс, ацэньваючы справу ўсяго свайго жыцця, падкрэсліваў, што галоўнае яго дасягненне—канкрэтна-гістарычны аналіз дыялектыкі класавых адносін у сферы матэрыяльнай, а потым і духоўнай вытворчасці. Ці патрэбна абмяжоўвацца паняццем мастацтва «наогул», калі Маркс спецыяльна і не раз заяўляў, што ў тэорыі цывілізацыі можна выйсці за межы агульных, беззмястоўных, пошлых фраз толькі пры ўмове, што замест «усеагульных», пазагістарычных катэгорый даследчык будзе разглядаць сувязь паміж матэрыяльнай і духоўнай вытворчасцю (значыць, і мастацтвам) **«у пэўнай гістарычнай** форме»? У Ярэміча ж якраз наадварот, найбольш дзейснай з'яўляецца тэндэнцыя разглядаць нейкую пазагістарычную сутнасць эстэтычнай дзейнасці, якая не залежыць ні ад ідэйна-мастацкага зместу твораў, ні ад іх сацыяльнай функцыі ў пэўнай грамадскай структуры.

Як вядома, упершыню «Эканамічна-філасофскія рукапісы 1844 года» былі апублікаваны ў 1932 годзе. У тым жа годзе з каментарыямі да іх выступіў шэраг буржуазных і сацыял-дэмакратычных інтэрпрэтатараў марксізма. Ужо тады ў рабоце Г. дэ Мана «Нанова адкрыты Маркс» сцвярджалася, што неабходна аддзяліць «гуманістычны марксізм» ранняга

# КНІЖНЫМ СЛОВАМ... І НЕ АДНЫМ ІМ

**З ЛЮБВІ ДА ЧЫТАЧА — ЛЮБІЦЬ І ВЕДАЦЬ КНІГУ. ● СВОЙ ТВОРЧЫ ПОШУК. ● АДКУЛЬ ПРЫХОДЗІЦЬ МАСАВЫ ЧЫТАЧ! ● ПЕРШЫ БІБЛІЯТЭКАР — ЯК ПЕРШЫ НАСТАЎНІК. ● У АТМАСФЕРЫ ДАВЕРУ І РОЗДУМУ НАД КНІГАЮ, НАД ЖЫЦЦЁМ.**

Я ПРЫХОДЖУ сюды, як усе. Перад парогам здымаю шапку, адчыняю дзверы маленькай утульнай залы, саджуся за стол — калі свабодны, дык канцавы, ад сцэнкі, — разгортваю кнігу.

У чытальні я не адзін. Сюды, прыкмеціў, штовечар наведваецца малады сумнаваты чалавек: гартае часопісы. Заўсёды, чамусьці, «Огонёк». Абклаўшыся кніжкамі, другі вечар запар нешта старанна выпісвае ў сшытак дзяўчына гэтак восьмага-дзявятага класа. Мабыць, карпее над хатнім сачыненнем. Тамара Васільеўна, загадчыца бібліятэкі, казала ж мне, што вучні старэйшых класаў прызвычаіліся тут, у чытальнай зале бібліятэкі, пісаць сачыненні: «...Тут ім лацвей. І мы пасабляем падбіраць літаратуру. У нас жа на паліцах трыццаць чатыры тысячы тамоў...»

Цёплае святло лямпачак льецца на сталы, кнігі, твары. Здаецца, яно праменіць ад саміх кніг, твараў.

Дзверы прыадчынены і, адараўшыся ад старонкі, я чую: нехта з жанчын-бібліятэкарак выдае кнігі на абанеменце. Можа Раіса Паўлаўна Плоткіна?.. Разважлівы, прыцішлы голас. А можа Клаўдзя Аляксандраўна Сапрыка? Ці Марыя Абрамаўна Гарбатава наведалася пасобіць?.. Яна, старэйшы бібліятэчны работнік, на пенсіі, але мне казалі, што часцяком прыходзіць сюды, становіцца на абанемент, каб пасобіць сваім малодшым калегам па прафесіі. Асабліва ў гадзіны «пік», калі чытачоў збіраецца шмат і ўсе спяшаюцца.

Гэтак сеўшы за стол і прыслухаўшыся да жыцця ў бібліятэчных сценах, заўважаеш адразу, як любяць рагачоўцы сваю бібліятэку. Вось і ў гэтай ціхай размове:

— Валя, колькі табе гадоў?
— Шаснаццаць.
— Так позна запісваешся?

— А мы нядаўна пераехалі ў Рагачоў...
— Твае любімыя пісьменнікі?
— Талстой, Чорны...
— Ёсць і любімы герой?
— Наташа Растова. Яна нечым блізкая нам, сённяшнім дзяўчатам. Няхай тады не так адзяваліся, жылі, але душою... У мяне ёсць сяброўка, вылітая Наташа...

Для мяне, чытача, староннягa чалавека, размова гэтая можа і здалася выпадковай, але там, на абанеменце, яна вельмі звычайная. Гэта я заўважыў пазней. Такая размова вопытнага бібліятэчнага работніка з маладым чытачом, які першы раз пераступае парог бібліятэкі, — частая.

— Каб чытач любіў і ведаў кнігу, мы павінны любіць і ведаць чытача. Ніякага прымусу тут быць не можа, — кажа мне Тамара Васільеўна Любагошчава. — Ведаць яго па ўзросце, начытанасці, адукацыі, схільнасцях.

Чытач і кніга... Колькі праблем за гэтымі словамі! А па лініі: чытач — бібліятэкар? Не меней. Адна з іх — сарыентаваць чалавека ў моры кніг, навін, ведаў. Сёння адно ў Рагачоўскай раённай бібліятэцы 34 тысячы тамоў, тысячы чытачоў. А па раёне? Аж 15 перасоўных бібліятэчак працуе ад райбібліятэкі ды каля 50 сельскіх, клубных. І з кожнай — работнікі раённай бібліятэкі не проста знаёмыя, а цікава супрацоўнічаюць, кожнай дапамагаюць. Вядома, гэта справа вельмі складаная і нялёгкая, асабліва калі ў ёй шукаць самыя эфектыўныя формы работы.

— Кожны бібліятэкар добра ведае, што чалавек чытае большасць тых кніг, якія бліжэй да яго,—кажа зноў Тамара Васільеўна. — Адну амаль літаратуру, адны часопісы чытаюць, скажам, механізатары, хоць жывуць далёка адзін ад аднаго. І вось мы пачалі складаць рэкамендацыйныя спісы літаратуры па прафесіях, планы для груп чытачоў. Паляводам—адзін план, механізатарам — другі, жывёлаводам — трэці. І школьнікам свой. Чытач адразу прывык да нашых рэкамендацый...

На паліцах раённай бібліятэкі ляжаць прыгожа аформленыя рэкамендацыі: «Літаратура аб У. І. Леніне», «Да XXIV з'езда КПСС». «Што чытаць юнаму тэхніку», «Для аматара прыроды» і іншыя. Тут жа і «Кніга прапаноў» сельскім бібліятэкам. Разгорнеш: бачыш дарогі, дарогі, дарогі... Іх пракладаюць на сяло, у самыя далёкія куткі раёна тыя пяцёра жанчын, што працуюць у раённай бібліятэцы. Едуць да сваіх малодшых калег для абмену вопытам, нешта падказаць, параіць, наладзіць. І застаюцца ў кнізе запісы пасля кожнага такога візіту. Вось апошняя паездка ў Гадзілавіцкую сельскую бібліятэку загадчыцы перасоўным фондам Раісы Іванаўны Іллюковай. Канкрэтныя рэкамендацыі: «Аформіць картатэку літаратуры на тэму аб XXIV з'ездзе партыі», «Прачытаць наведвальнікам бібліятэкі агляд навінак беларускай мастацкай літаратуры», «Сумесна з партыйнай і камсамольскай арганізацыямі калгаса наладзіць вусны часопіс «XXIV з'езду КПСС — нашы дасягненні». Ёсць парады, метадычныя, арганізацыйныя, па рабоце з чытачамі і кнігамі.

Супрацоўнік раённай бібліятэкі—сялу... Работа Рагачоўскай бібліятэкі ў гэтым напрамку даволі цікавая. Адметная рыса — не выпадковыя наезды, а развіццё сістэматычных творчых сувязей. Скажам, краіна жыла векавым ленінскім юбілеем, і ўсім бібліятэкам была аказана метадычная дапамога з раёна, усе яны актыўна ўдзельнічалі ў грамадскім аглядзе. Але актыўнасць — яшчэ не галоўнае. Бадай, самае важнае тое, што амаль кожная сельская бібліятэка знайшла за час агляду свой творчы почырк у рабоце. У Гадзілавічах, напрыклад, быў цікава праведзены конкурс на лепшага чытальніка мастацкіх твораў аб Леніне. У Балатнянскай бібліятэцы цэлы вечар гучала любімая музыка Ільіча. Былі напісаны вясковыя хронікі, летапісы калгасаў і саўгасаў, афармляліся тэматычныя стэнды, выстаўкі.

«Вучыцеся любіць зямлю!» Такі вечар адбыўся ў Курганскай сельскай бібліятэцы. Амаль усю вёску сабраў. Усхваляваў.

У каго вучыцца? Ды ў бацькоў, у тых старэйшых вясковых хлебаробаў, якія сядзелі на гэтым вечары на самых пачэсных месцах.

Каму вучыцца? Ды тым маладым людзям, што сабраліся, папрыходзілі амаль з кожнай вясковай хаты разам з бацькамі.

Не было сумна. Было святочна і ўрачыста. Размова ішла пра родны палетак, луг, лес, пра свае фермы, школу, хаты. Але не казённа, не тра-

# МАСТАЦТВА І ГУМАНІЗМ

Маркса ад «матэрыялістычнага марксізма» часоў «Капітала» і «Крытыкі Гоцкай праграмы». Адзін з найбольш актыўных цяпер фальсіфікатараў марксізма Герберт Маркузе, аўтар антыкамуністычнай кнігі «Савецкі марксізм», тады ж, у 1932 годзе, заявіў, што галоўная асаблівасць «Рукапісаў...» заключаецца нібыта ў тым, што чалавек разглядаецца тут наогул як чалавек па-за гістарычна канкрэтнымі класавымі адносінамі. З таго часу сярод рэвізіяністаў стала адзнакай добрага тону супрацьпастаўляць «Эканамічна-філасофскія рукапісы 1844 года» астатняй спадчыне Маркса і перш за ўсё яго наступным работам, грыміраваць Маркса пад ліберальнага буржуазнага гуманіста. Аналагічная работа робіцца і ў галіне эстэтыкі.

Значэнне «Эканамічна-філасофскіх рукапісаў» для эстэтычнай тэорыі вызначаецца перш за ўсё тым, што Маркс разглядае тут, у прыватнасці, праблемы ўсебаковага, у тым ліку эстэтычнага, развіцця чалавечай асобы. Буржуазнаму разуменню чалавека і чалавечых адносін як тоесных адносінам куплі-продажу Маркс супрацьпастаўляе гуманістычную канцэпцыю чалавечых адносін, у якой знаходзяць сабе месца і некаторыя ідэі антрапалагічнага матэрыялізму Феербаха — перш за ўсё вучэнне аб адзінстве чалавека з прыродай. Тэорыя Маркса тут знаходзіцца яшчэ ў працэсе крышталізацыі, станаўлення, яна выступае яшчэ ва ўбранні феербахаўскай тэрміналогіі, не ўсе паняцці і фармуліроўкі ўдакладнены і паслядоўна вытрыманы ў духу гістарычнага матэрыялізму. Аднак і тут ужо відаць, як далёка адышоў Маркс ад антрапалагічнай метадалогіі Феербаха. Так, для аўтара «Рукапісаў...» адзінства чалавека і прыроды выступае перш за ўсё ў працэсе грамадскай вытворчасці, якая вызначае ў сваю чаргу ступень развіцця «сутнасных сіл» чалавека. Чалавек тут — не толькі біялагічная, але і сацыяльна-гістарычная істота. Даследуецца не толькі праца чалавека, але і «адчужаная праца» — гэта значыць такая форма працы, якая звязана з прыватнай уласнасцю, з пэўнай фазай у развіцці чалавечага грамадства. Ва ўмовах буржуазнага ладу праца чалавека «творыць прыгажосць, але таксама і нявечыць рабочага».

Аднак некаторыя інтэрпрэтатары лічаць за лепшае не заўважаць таго, што аддзяляе гістарычны матэрыялізм Маркса ад антрапалагічнага матэрыялізму (і, значыць, ідэалізму ў тлумачэнні сацыяльных працэсаў) Феербаха. Яны спрабуюць з ранніх работ Маркса выхапіць такія словы і фразы, якія стваралі б уражанне, быццам у Марксавай канцэпцыі гуманізму знікаюць сацыяльныя адрозненні, ігнаруюцца класавыя супрацьлегласці і застаецца «чалавек наогул». Зусім невыпадкова Ярэміч, які спасылаецца на «Эканамічна-філасофскія рукапісы 1844 года», дае сваёй рабоце характэрны падзагаловак—«Вопыт антрапалагічнага падыходу». Тым самым дэманструецца свядомае жаданне адмовіцца ад канкрэтна-гістарычнага метаду аналізу, падмяніўшы яго антрапалагічным.

Паводле Ярэміча, мастацтва ўяўляе дзейнасць, у якой людзі надаюць чалавечы сэнс сваім творам. Вуха і вока чалавека здольныя ўспрымаць толькі адносна невялікую колькасць гукавых і светлавых хваляў, таму музыка і жывапіс карыстаюцца адносна абмежаванай колькасцю гукаў і фарбаў. З гэтага пункту гледжання, гаворыць аўтар работы «Гуманізм мастацтва», відавочна, што калі б у жывёл існавала мастацтва, якасць яго была б іншай. Так, напрыклад, сысуны палічылі б за лепшае мастацтва складанне пахаў, бо, у адрозненне ад людзей, асноўным пачуццём для іх з'яўляецца нюх, а не слых і зрок. Такім чынам, паводле Ярэміча, гуманізм мастацтва абумоўлены ўжо той фундаментальнай акалічнасцю, што твор мастацтва робіцца зразумелым толькі істотам, якія валодаюць такімі ж органамі пачуцця, што і чалавек.

Аднак на справе праблема гуманізму наогул і гуманізму мастацтва ў прыватнасці не вырашаецца так проста. Хіба з таго, што дзеянне ажыццёўлена чалавекам і з выкарыстаннем форм і сродкаў, створаных людзьмі, непазбежна павінен выцякаць гуманістычны характар гэтага дзеяння? Хіба нам невядомы многія рэчы, якія застаюцца выключнай, але трагічнай прывілеяй менавіта чалавечай гісторыі? Бо жывёльны свет не ведае ні канцэнтрацыйных лагераў, ні шавінізму, ні эксплуатацыі, ні рэлігійнага цемрашальства, ні фанабэрыстага эстэтызму. Усё гэта— з'явы, якія магчымы толькі ў чалавечым грамадстве. Ці не занадта жудасным сафізмам стала б сцвярджэнне, што нацысцкія мастакі і паэты, якія ўслаўлялі крывавыя злачынствы гітлераўскіх «звышчалавекаў», паглыблялі гуманізм у мастацтве, бо гэтыя мастакі—людзі?!

Шчодра аснашчаючы свае тэарэтычныя выкладкі словамі «чалавек» і «чалавечае», антрапалагічная эстэтыка ў інтэрпрэтацыі паняццяў радыкальна разыходзіцца з марксізмам. Як вядома, Маркс вызначыў сутнасць чалавека праз сукупнасць усіх грамадскіх адносін. З гэтага пункту гледжання нават у найбольш натуральных сваіх праявах, напрыклад, у формах задавальнення голаду і смагі, у адносінах паміж поламі і гэтак далей, чалавек, паводле Маркса, выяўляе сваю спецыфічную (сацыяльную) прыроду. Сярод усіх грамадскіх адносін, якія вызначаюць сутнасць чалавека, Маркс выдзеліў вытворчыя адносіны, ад развіцця якіх у канчатковым выніку залежыць стан астатніх сувязей паміж людзьмі. Толькі гістарычна канкрэтны аналіз дыялектыкі грамадскіх адносін дасць даследчыку разуменне кожны раз пэўнага (а ў класавых фармацыях — класавага) тыпу чалавека і чалавечай дзейнасці з шырокім спектрам яе значэнняў.

Неабгрунтаванасць прэтэнзій антрапалагічнай эстэтыкі лічыць у сваім актыве раннія працы Маркса відавочная яшчэ і таму, што ў яго гаворка ідзе не аб усякай эстэтычнай дзейнасці, а аб такой яе форме, якая становіцца магчымай толькі ва ўмовах камуністычнага грамадства.

Жадаючы ўзяць Маркса па-за марксізмам, антрапалагічная эстэтыка, зусім натуральна, не праяўляе ніякага жадання супастаўляць «Эканамічна філасофскія рукапісы 1844 года» з пазнейшымі працамі Маркса і Энгельса, у якіх былі ўдакладнены і развіты палажэнні, сфармуляваныя ў ранніх работах. Вядома, што ўжо ў «Нямецкай ідэалогіі» (1845—1846 гады) Маркс і Энгельс, аналізуючы антрапалагічную канцэпцыю Феербаха, пісалі: «Матэрыялізм і гісторыя ў яго цалкам адарваны адзін ад аднаго...» У гэтай жа рабоце падкрэслівалася, што «самабытнае і свабоднае развіццё індывідаў перастае быць фразай» выключна «ў межах камуністычнага грамадства». Паводле Маркса, дзейнасць людзей набудзе універсальны характар толькі пры ўмове камуністычнай рэвалюцыі, пры высокім развіцці вытворчых сіл, якое складае эканамічную прадумову свабоднага развіцця ўсіх членаў грамадства. Таму гаворка можа ісці аб свабоднай, універсальнай творчай дзейнасці людзей, якія знаходзяцца «на пэўнай гістарычнай ступені развіцця, а зусім не аб любых выпадковых індывідах».

Менавіта ў гэтым пункце антрапалагічная эстэтыка выяўляе з асаблівай відавочнасцю сваю негрунтоўнасць у тлумачэнні праблемы гуманізму. Яна не лічыцца з тым, што аўтарам твора мастацтва з'яўляецца не чалавек наогул, а канкрэтная асоба, якая займае тую ці іншую пазіцыю ў эстэтычных, маральных, сацыяльна-палітычных адносінах эпохі і праследуе тыя ці іншыя прыватныя і агульныя мэты. Мастацкі твор, як вынік творчых намаганняў гэтай асобы, становіцца элементам грамадскай свядомасці, якая ў класава-антаганістычным грамадстве непазбежна адлюстроўвае непрымірымыя супярэчнасці сацыяльнай структуры. Гуманізм мастацтва праяўляецца не ў тым, што твор—справа рук чалавечай істоты, а ў тым, што вобразы мастацтва становяцца духоўнай сілай у барацьбе за свабоду і годнасць асобы, за перамогу такіх грамадскіх адносін, якія сапраўды забяспечваюць гарманічнае развіццё кожнай чалавечай асобы.

Праблема гуманізму—арэна ідэалагічнай барацьбы. Ж. П. Сартр невыпадкова ў назву сваёй кнігі выносіць тэзіс, амаль лозунг: «Экзістэнцыялізм —гэта гуманізм». Сярод многіх іншых спроб пабудаваць гуманістычную тэорыю на немарксісцкай аснове—работы англійскага філосафа Дж. Хакслі з яго «гуманістычнай рэвалюцыяй», якая стала адным з тэарэтычных апраўданняў руху «хіпі», працы французскага каталіка Тэяра дэ Шардэна з яго «неагуманістычным» эвалюцыянізмам. Аднак адзіна паслядоўнай і сталай гуманістычнай канцэпцыяй, якая ўвабрала ў сябе дасягненні папярэдніх форм гуманізму, з'яўляецца камунізм. Гэта сапраўдная гуманістычная сістэма ідэй, якія знаходзяць не толькі філасофскае і сацыяльна-палітычнае, але і эстэтычнае выражэнне. Сацыялістычны гуманізм, заснаваны на ясным разуменні законаў грамадскага развіцця, прадугледжвае непрымірымую класавую барацьбу за пабудову бяскласавага грамадства.

Ленінскія працы вучаць звязваць ідэю чалавечнасці з ідэяй барацьбы за сацыялізм. Для У. І. Леніна «чалавечыя ўмовы жыцця» прадугледжваюць рэвалюцыйнае звяржэнне гнёту памешчыкаў і капіталістаў — аб гэтым можна прачытаць, напрыклад, у яго артыкуле «Л. М. Талстой», напісаным у сувязі са смерцю геніяльнага мастака. У гэтай і іншых сваіх працах, звязаных з праблемамі мастацтва, ён бязлітасна выкрываў буржуазны характар ліберальнай і меншавіцкай крытыкі мастацтва з пазіцый «чыста чалавечых», з выкарыстаннем беззмястоўнага «агульначалавечага» фразёрства. Ленінскія ацэнкі творчасці Талстога і Бетховена, яго барацьба з пралеткультаўскімі скажэннямі класавага падыходу да мастацтва, яго перакананасць у тым, што камуністычная культура павінна з'явіцца заканамерным развіццём каштоўнасцей, выпрацаваных чалавецтвам, даюць цудоўныя ўрокі дыялектыкі ў эстэтыцы.

Аляксандр НОВІКАЎ,
кандыдат філасофскіх навук.
(АДН).

фарэтна, як, бывае, праходзяць часам такія вечары. Хоць бы пачатак узяць. Верш А. Твардоўскага «Хлеб». Яго чытала вучаніца дзесятага класа Л. Сідарава. Было і весела слухаць яе, маленькі вясковы талент, і ў той жа час сумна — ёсць што ўспомніць. Потым падзяліліся думкамі мясцовы палявод Герой Сацыялістычнай Працы М. Арцёменка. Проста гаварыў, шчыра, як за бяседным сталом. Гаварылі аб сумленні хлебароба, яго вернасці роднаму полю, аб вайне, якая гэтае поле дратавала, аб цяперашнім дні, калі яно зарадзіла, як ніколі яшчэ раней. Сваё запаветнае выказаў аграном Л. Вінакур, сваё, не раз перадуманае — дырэктар саўгаса Г. Палякшанаў. Старэйшыя далі пагаварыць і маладым. Маладыя выслухалі старэйшых.

Бібліятэка...

Звычайна, мы разумеем яе як свет кніжных паліц, друкаванага слова. А вось работнікі раённай бібліятэкі ў Рагачове бачаць сваю работу значна шырэй. Не толькі кніжным словам яны выхоўваюць свайго чытача, але і вусным. Таму тут праводзіцца цікавая краязнаўчая работа, чытачы перапісваюцца з Народнай бібліятэкай чэхаславацкага горада Пракаціца, сюды нярэдка прыязджаюць пісьменнікі, землякі і не землякі (цікавыя сустрэчы былі з Андрэем Макаёнкам, Уладзімірам Караткевічам, Еўдакіяй Лось, маскоўскім паэтам, былым рагачоўцам Сямёнам Бытавым), актыўна праходзяць чытацкія канферэнцыі па творах мастацкай літаратуры. І калі ў справаздачах бібліятэкі лічбы адны з лепшых у вобласці па колькасці чытачоў, па кнігавыдачах, захаванасці і росце кніжнага фонду, калі вялікія лічбы праведзеных масавых мерапрыемстваў, дык за імі, знешне зусім нецікавымі, нават казённымі, сухімі, хаваецца глыбокая творчая работа бібліятэкара з чытачом, іх суіснаванне не толькі ў сферы кніг, літаратуры, але і ў сферы шырокага грамадскага жыцця. Прынамсі, на гэтакай плыні рагачоўская бібліятэка знаходзіць свайго масавага чытача, і гэты чытач, звычайна, вельмі актыўны, сапраўдны сябра кнігі, бібліятэкі.

Прыгадваю свайго першага бібліятэкара. Было гэта ў вайну, у вялікім сяле на беразе Волгі. Якога люду толькі не збіралася там у хаце-чытальні! Старыя праседжвалі ля вялізнага чорнага рэпрадуктара-талеркі, слухаючы весткі з франтоў. Жанчыны за іх спінамі лушчылі сланечнікі. Часамі наігрываў гармонік, гулялі ў карты і шашкі. Шыліся па вуглах малыя. Прыходзілі на мыліцах, з падвязанымі рукамі франтавікі — толькі што, здавалася, з бою. Прыносілі і пісьмы ад сыноў, мужоў, бацькоў. Да дзірак чытаныя-перачытаныя дома, тут яны чыталіся яшчэ раз — для ўсіх. І чытала іх сярэдніх гадоў жанчына, што выдавала кнігі. Белы твар, мокрыя сумныя вочы, ціхі, з перабоямі ад нейкае сухасці ў горле, голас. У сяле, памятаю, гэтай жанчыне кланяліся ніжэй, як каму іншаму, — усе. А з хаты-чытальні яна штовечар праводзіла сваіх, здавалася, далёкіх ад кнігі, наведвальнікаў — з кнігамі. Кожны нёс кнігу дахаты. Хоць ніякага плана па кнігавыдачы і колькасці чытачоў ёй у той час не даводзілі ні зверху, ні знізу.

Не памятаю, як звалі маю першую бібліятэкарку. Але памятаю яе белы твар, мокрыя вочы і рукі на чымсьці пісьме. Яшчэ памятаю сваю першую бібліятэчную кнігу з яе рук: апавяданні пра савецкіх лётчыкаў, першых герояў у небе Вялікай Айчыннай вайны...

— А мая першая бібліятэкарка была ў Княжыцах, пад Магілёвам, — успамінае Тамара Васільеўна. — Бывала, не толькі бралі ў яе кнігі, але памагалі ёй падклеіць старыя выданні, абгарнуць... Першы бібліятэкар як першы настаўнік. Яна вучыла нас любіць кнігу...

Колькі ж такіх вось першых сустрэч з бібліятэкарам адбылося тут, у сценах рагачоўскай бібліятэкі! Першых — і на ўсё жыццё. З Любагошчавай, Плоткінай, Сапрыка, Іллюковай. З Гарбатавай і Раісай Maiсееўнай Зыкавай... Праўда, у апошняй,— сустрэчы, канечне, не першыя. Стары бібліятэчны работнік, член бібліятэчнага савета, яна выбрала сабе даволі нялёгкі абавязак: шукаць па кватэрах «штрафнікоў», вяртаць кнігі назад у бібліятэку ад людзей, якія яшчэ не навучыліся паважаць кнігу, бібліятэку. Ёсць і такія. Але і сустрэчы з Раісай Maiсееўнай запамятаюцца не аднаму «штрафніку». Запамятаецца суровы дакор у яе вачах і словах, яе — «крышачка маралі»...

Сустрэча з бібліятэкай...

Позним вечарам, калі канчаецца рабочы дзень і ў раённых бібліятэкараў, калі гасне святло на абанементным стале, над стэлажамі, калі яго трэба ўжо гасіць і ў чытальнай зале, я закрываю кнігу і пакідаю гэты ўтульны, чысты і светлы куток Рагачова разам з апошнімі чытачамі. Затрымліваюся ля паліцы з рэкамендацыямі чытачу. Заглядваю ў кнігу водгукаў чытачоў аб прачытаных творах. Дзесяткі водгукаў аб творах пра Леніна... Шчырых, усхваляваных, узнёслых...

Трэба ісці, і я кладу кнігу водгукаў чытачоў на паліцу, не дачытаўшы, але штосьці яшчэ вельмі істотнае адкрыўшы для сябе ў сценах бібліятэкі. Хто аўтары гэтых выказванняў? Вучаніцы, гаспадыні ці работніцы камбіната бытавой абслугі? А можа служачыя? Не ўсе ўказваюць сваю прафесію, узрост.

Затое я адчуваю, адкуль гэта неабходнасць чытача выказацца ў бібліятэчным сшытку. Напэўна, яна з'явілася не толькі таму, што кніга зацікавіла, усхвалявала. Відаць, пачуццё прыйшло яшчэ і ад сустрэчы з самой бібліятэкай, заўсёды пануючай тут атмасферай даверу і роздуму, ад неабходнасці шчыра падзякаваць бібліятэкару, які дапамог знайсці на шматлікіх стэлажах кнігу для сэрца, пераканаў узяць яе і прачытаць.

Так, чытач выхоўваецца самой кнігай... І не толькі кнігай.

В. ФІЛІМОНАЎ.

## ФІЛЬМ ПРА АФІЦЭРА-РАКЕТЧЫКА

«Адваротны адлік»—так называецца кароткаметражны дакументальны фільм пра аднаго з тых, каму Радзіма даверыла грозную зброю—ракеты. Карціна створана творчым аб'яднаннем «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм». Сцэнарыст, у мінулым ваенны журналіст, А. Белашэеў і кінарэжысер А. Ястрабаў расказваюць у кінастужцы пра афіцэра, які ўвасабляе сучасную армію, свайго земляка інжынер-падпалкоўніка В. Гудзіка.

...Камандзір падраздзялення прымае рапарт лейтэнанта, які прыбыў для праходжання службы. Кароткая гутарка. Нескладаная біяграфія ў маладога афіцэра: школа, ваеннае вучылішча, часць, і як яна не падобна на жыццё, што склалася ў старэйшага таварыша, які гутарыць з ім.

Армейскія будні. Вучэбная трывога. Лічаныя мінуты ідуць на тое, каб калона баявых машын рушыла ў шлях. Дакладна працуюць ракетчыкі на занятай пазіцыі. І вось —грозны пуск. Няўхільны, магутны ўдар накіраванай у вышыню ракеты.

Пачуцце гонару ахапляе, калі бачыш, што ля пускавых пультаў гэтай грознай зброі стаяць такія людзі, як камуніст, інжынер-палкоўнік В. Гудзік.

БЕЛТА.

Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Івану Ралько з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.

Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Яфіму Садоўскаму з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці сына.

Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Паўлу Місько з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.

Калектыў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» выказвае глыбокае спачуванне загадчыку аддзела культуры Паўлу Місько з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.

